ЛіМ
# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

6 ЧЭРВЕНЯ 2003 г. № 23/4209 КОШТ 530 РУБ.













ВЫСТАВЫ









# ШЭДЭЎРЫ ТРАЦЯКОЎКІ

***Упершыню ў Беларусі экспануецца настолькі шырокая калекцыя дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі — 60 палотнаў самых вядомых рускіх жывапісцаў. Гэтую выставу у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі можна без перабольшання назваць сапраўднай падзеяй у культурным жыцці Беларусі.***

Глядзіце на стар. 12



*Былы галоўны рэдактар "ЛіМа" Хведар ЖЫЧКА (на здымку — другі злева з калектывам рэдакцыі, 70-я гады) успамінае пра тое, што было і што прыпамінаецца...*

Глядзіце на стар. 4-5

# КОЛА ДЗЁН

**Беларуская дэлегацыя на чале з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Лукашэнкам наведала Санкт-Пецярбург, дзе прыняла ўдзел у мерапрыемствах, прысвечаных 300-годдзю горада. Падчас знаходжання ў Санкт-Пецярбургу Прэзідэнт Беларусі меў сустрэчы з кіраўнікамі дзяржаў СНД і іншых краін.**

## СВЯТЫНЯ ТЫДНЯ

7 чэрвеня ў аэрапорце "Мінск-1" вернікі будуць сустракаць мошчы Святога апостала Андрэя Першазванага, якія будуць знаходзіцца ў прыходзе іконы Божай Маці "Усіх тужлівых Радасце" па адрасе: Мінск, в. Прытыцкага, 65.

Мошчы будуць пастаўлены ў храме прап. Еўфрасінні, ігумені Полацкай.

9 чэрвеня, мошчы Святога апостала Андрэя Першазванага пакінуць прыход у гонар іконы Божай Маці "Усіх тужлівых Радасце"

Праводзіны святых машчэй Андрэя Першазванага пройдуць ў 14.00 у аэрапорце "Мінск-1"

## КАНТАКТЫ ТЫДНЯ

У Тэгеране праходзяць Дні культуры Беларусі ў Іране. Афіцыйную дэлегацыю ўзначальвае міністр культуры Рэспублікі Беларусь Леанід Гуляка. Аматары мастацтва Ірана маюць магчымасць паслухаць Прэзідэнцкі аркестр Рэспублікі Беларусь, вакальны ансамбль "Камерата", салістаў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі, а таксама паглядзець фільмы кінастудыі "Беларусьфільм" "У жніўні 44-га" М. Пташука і "Маленькі баец" М. Касымавай.

## СПІС ТЫДНЯ

У Спісе сусветнай спадчыны ЮНЕСКА па стане на 1 студзеня 2003 года лічыцца 730 аб'ектаў са 125 краін свету, у ліку якіх — шэдэўры архітэктуры, гістарычныя цэнтры гарадоў, помнікі археалогіі і культурнага ландшафту. На сённяшні дзень наша краіна ў гэтым спісе прадстаўлена Белавежскай пушчай і Мірскім замкам. Найбольш імавернымі кандыдатамі на ўключэнне ў Спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА ад Беларусі з'яўляюцца Барысаглебаўская (Каложская) царква XII стагоддзя ў Гродне, мемарыяльны комплекс "Брэсцкая крэпасць-герой" і Нясвіжскі палацава-паркавы ансамбль XVI—XVIII стагоддзяў.

## ПЕРСПЕКТЫВА ТЫДНЯ

На апошняй сесіі праўлення Саюза балтыйскіх гарадоў, што адбылася ў шведскім горадзе Умэа, удзельнічалі прадстаўнікі і нашай краіны. І не проста каб папрысутнічаць, а каб разам працаваць над праектамі, якія будуць карыснымі для ўсіх краін, якія ўваходзяць у гэтую прадстаўнічую арганізацыю — гарады Даніі, Германіі, Фінляндыі, Швецыі, Польшчы, Нарвегіі, Расіі і краін Балтыі. Вынікам сесіі Саюза балтыйскіх гарадоў стала прыняцце ў свае шэрагі нашага Гродна.

## ПАСТАНОВА ТЫДНЯ

У Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь рыхтуюцца папраўкі ў заканадаўства, у адпаведнасці з якімі называцца Прэзідэнтам зможа толькі кіраўнік дзяржавы. Змяненні ўносяцца ў адпаведнасці з пастановай урада Беларусі, згодна з якой слова "прэзідэнт" павінна быць выключана з пераліку назваў кіраўнікоў арганізацый.

## БУДАЎНІЦТВА ТЫДНЯ

У Мінску ў раёне вуліцы Каржанеўскага вадасховішча Лошыца пачалося будаўніцтва вучэбна-спартыўнага цэнтра гарналыжнага спорту і сноўборда. Для ажыццяўлення праекта будзе прыстасавана натуральная ўзвышанасць, на якой размесцяцца некалькі трас для спуску даўжынёй ад 100 да 150 метраў і тры пад'ёмнікі. Забяспечваць "горны" схіл снегам будзе спецыяльная пушка. Будаўніцтва спартыўнага цэнтра павінна закончыцца да пачатку сёлетняй зімы.

## ТЭРМІНЫ ТЫДНЯ

У бліжэйшы час будзе падпісана пастанова Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя аб устанаўленні тэрмінаў забароны на лоўлю сома для забеспячэння спрыяльных умоў нерасту гэтай рыбы. Так забарона ў Брэсцкай вобласці будзе дзейнічаць з 5 чэрвеня па 4 ліпеня, у Віцебскай — з 25 чэрвеня па 24 ліпеня, у Гомельскай — з 5 чэрвеня па 4 ліпеня, у Гродзенскай — з 21 чэрвеня па 20 ліпеня, у Мінскай — з 9 чэрвеня па 8 ліпеня, а ў Магілёўскай — з 6 чэрвеня па 5 ліпеня.

## ЗАКЛІК ТЫДНЯ

Здавалася б, што выкарыстанне ў час зімы саляной сумесі для пасыпання дарог не прыносіць ніякай шкоды, а толькі карысць. Аднак гэта не так, з-за выкарыстання мінулай зімой саляной сумесі ў Мінску пацярпелі 1600 дрэў і ў першую чаргу ўздоўж праспектаў Машэрава і Скарыны, кальцавой аўтадарогі, вуліцы Арлоўскай. У гарвыканкам ад "Мінскзеленбуда" накіраваны пратакол з заклікам забараніць прадпрыемству "Гаррамаўтадар Мінгарвыканкама" прымяняць саляную сумесь.

## АБМЕЖАВАННІ ТЫДНЯ

На аўтамабільных дарогах Беларусі з 1 чэрвеня і да канца лета будуць дзейнічаць часовыя абмежаванні. У гэты перыяд у дзённую пару сутак (з 10 да 22 гадзін) пры тэмпературы паветра вышэй 25 градусаў абмяжоўваецца рух па аўтамабільных дарогах з асфальтавым пакрыццём сродкаў з пагрузкай на адзіночную вось больш як шэсць тон. Рух такога транспарту будзе дазволены ў начны час з 22 гадзін вечара да 10 гадзін раніцы.

## ЗАЦЬМЕННЕ ТЫДНЯ

31 мая ў Брэсце можна было назіраць сонечнае зацьменне. Пачалося яно ў 5.24 раніцы. Падобнае зацьменне адбудзецца праз 18 гадоў, 11 сутак і 8 гадзін.

**ФЕСТЫВАЛІ**

# «МІРСКІ ЗАМАК — 2003»

Душа радуецца, калі бачыш, як паступова адраджаюцца гістарычныя мясціны Беларусі. Вельмі моцна пераўтварыўся апошнім часам гарадскі пасёлак Мір, а таксама знакаміты, унесены ў Спіс сусветнай культурна-гістарычнай спадчыны ЮНЕСКА, замкавы комплекс "Мір". Менавіта тут, ля цагляных сцен Міра, 31 мая — 1 чэрвеня ладзіўся Беларускі фестываль мастацтваў "Мірскі замак-2003" (арганізатарамі фэсту выступілі Міністэрства культуры РБ, Гродзенскі аблвыканкам, Беларускі дзяржаўны інстытут праблем культуры, Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі, Нацыянальны мастацкі музей РБ), які падараваў усім удзельнікам і гасцям фэсту імгненні непаўторнай эстэтычнай асалоды. Бо праграму фестывалю склалі сапраўдныя "мірскія" забаўкі: мастацкая выстаўка "Помнікі старажытнасці" з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі ў Паўночным корпусе Мірскага замка (былі прадстаўлены работы М. Карпука), І Міжнародная канферэнцыя "Матэрыяльная і духоўная культура замкаў Беларусі", у якой бралі ўдзел каля дваццаці выступоўцаў (прагучалі даклады на тэмы "Замкавы комплекс "Мір" як сусветная каштоўнасць", "Рэканструкцыя інтэр'ераў Мірскага замка", "Музычная спадчына Радзівілаў", "Паэтыка барочнага палаца", "Рыцарскія клубы як сродак папулярызацыі сярэднявечнай культуры Беларусі" і інш.), спаборніцтва рыцараў, сярэднявечныя танцы, прадстаўленне Мірскай батлейкі ў Замкавым дворыку, якія сталіся, між іншым, толькі "Уверцюрай да свята". А ўрачыстае адкрыццё "Мірскага замка-2003" (мастацкі кіраўнік фестывалю — народны артыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар М. Фінберг) было яшчэ наперадзе, ужо на захадзе сонца, якое, у небе Міра, замяніць вялізны чырвоны паветраны шар. Беларускі фестываль мастацтваў віталі першы намеснік культуры РБ У. Рылатка (ён зачытаў прывітанне ў адрас "Мірскага замка" ад віцэ-прэм'ера РБ У. Дражына), памочнік Прэзідэнта І. Карэнда, пасол РБ па асаблівых даручэннях У. Шчасны, прафесар М. Фінберг, старшыня Гродзенскага аблвыканкама У. Саўчанка, старшыня Карэліцкага райвыканкама І. Шматко. Галоўнай часткай фэсту была разнастайная музычная імпрэза, у якой прагучалі творы беларускіх кампазітараў розных стагоддзяў у выкананні Дзяржаўнай акадэмічнай капэлы Р. Шырмы, Дзяржаўнай установы "Гродзенская капэла", музычнай капэлы "Санорус", народнага аркестра рускіх народных інструментаў Лідскага музычнага вучылішча. Заслужаны калектыў — Дзяржаўны канцэртны аркестр падрыхтаваў асобны тэматычны канцэрт камерных калектываў пад агульнай назвай "Музычная спадчына Радзівілаў", які закрыў фестываль. Акрамя гэтага, на эстрадзе ля замка быў паказаны ўрывак са спектакля "Навука кахання" Гродзенскага абласнога драмтэатра, прагучаў верш у гонар Міра беларускага паэта Л. Дранько-Майсюка ў выкананні аўтара.






1 чэрвеня фэст прадоўжылі не менш святочныя мерапрыемствы: выстаўкі работ дзіцячай творчасці, народных майстроў, выступленні народных музычных калектываў, турнір рыцарскіх клубаў.

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**

**Фота Г. ЖЭНІЧА**



**ПРЭМ'ЕРА**

# «ХАВАНШЧЫНА» — ГЭТА...

Напэўна, гэта адна з найбольш складаных, загадкавых і актуальных опер у сусветнай музычнай спадчыне. Гэта — класіка, вечная і заўсёды сугучная сучаснасці. У новым абліччы твор М. Мусаргскага (рэдакцыя Д. Шастаковіча) на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі прадставілі музычны кіраўнік і дырыжор Г. Праватораў, рэжысёр-пастаноўшчык М. Ізворска, мастак В. Окунеў, хормайстар Н. Ламановіч.

У спектаклі "Хаваншчына" занятыя вядучыя салісты: А. Кеда, А. Мельнікаў, Я. Нялепа, У. Пятроў, Я. Пятроў, В. Курбацкая, Э. Рыжановіч, В. Стральчэня ды інш.

**Н. К.**

**Фота А. ДЗМІТРЫЕВА**



# РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

## НАГАДВАЕ: ІДЗЕ ПАДПІСКА НА 2-ое ПАЎГОДДЗЕ 2003 ГОДА!

Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на другое паўгоддзе 2003 года. На выданні Рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і мастацтва" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні нашай краіны.

Кошты засталіся тымі ж, што і былі ў першым паўгоддзі. Для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь адкрыта льготная падпіска.

### "Літаратура і мастацтва"

Індывідуальная (індэкс — 63856)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**

**Ведамасная (індэкс — 63857)**
**на 1 месяц — 4000 руб.**
**на 3 месяцы — 12000 руб.**
**на 6 месяцаў —24000 руб.**

Ведамасная льготная (індэкс — 63880)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Полымя"

Індывідуальная (індэкс — 74985
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**

Ведамасная (індэкс — 00141)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб.**

Ведамасная льготная (індэкс — 00727)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Маладосць"

Індывідуальная (індэкс — 74957)
**на 1 месяц — 2600 руб.**
**на 3 месяцы — 7800 руб.**
**на 6 месяцаў — 15600 руб.**

Ведамасная (індэкс — 00137)
**на 1 месяц — 3800 руб.**
**на 3 месяцы — 11400 руб.**
**на 6 месяцаў — 22800 руб.**

Ведамасная льготная (індэкс — 00731)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Крыніца"

Індывідуальная (індэкс — 74824)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**

Ведамасная (індэкс — 74940)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб.**

Ведамасная льготная (індэкс — 00730)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Нёман"

Індывідуальная (індэкс — 74968)
**на 1 месяц — 2500 руб.**
**на 3 месяцы — 7500 руб.**
**на 6 месяцаў — 15000 руб.**

**Ведамасная (індэкс — 00238)**
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб**

Ведамасная льготная (індэкс — 00728)
на 6 месяцаў — 16800 руб.

### "Всемирная литература"

Індывідуальная (індэкс — 74863)
на 1 месяц — 2500 руб.
на 3 месяцы — 7500 руб.
на 6 месяцаў — 15000 руб.

Ведамасная (індэкс — 00135)
**на 1 месяц — 3500 руб.**
**на 3 месяцы — 10500 руб.**
**на 6 месяцаў — 21000 руб**

Ведамасная льготная (індэкс — 00729)
на 6 месяцаў — 16800 руб.




## «НЁМАН», № 5

"Нёман" адкрываецца падборкай вершаў лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Карызны "Озера доброты" ў перакладзе А. Цяўлоўскага і В. Палiканiнай. Гэтая публікацыя прымеркавана якраз да 65-годдзя вядомага паэта. Грамадзянская, пейзажная, любоўная лірыка, падсвечаная шчырым сэрцам і пільным роздумам юбіляра, не пакіне абыякавым нікога, хто прачытае яе. Паэзія прадстаўлена таксама нізкай вершаў Міхася Пазнякова ў перакладзе В. Грышкаўца. Ёсць і два паэтычныя дэбюты. Упершыню друкуюцца вершы маладога выкладчыка БДТУ, нядаўняга ўдзельніка Рэспубліканскага семінара маладых літаратараў Андрэя Цяўлоўскага, а таксама выпускніцы сталічнай гімназіі № 1 Наталлі Хлебус. Апошнюю рэкамендаваў да друку кіраўнік творчага семінара пры гімназіі А. Сульянаў.

Раздзел "Проза" распачынаецца раманам Таісы Бондар "Искушение". У цэнтры ўвагі пісьменніцы — прыцягальны вобраз славутай асветніцы Еўфрасінні Полацкай. Дарэчы, гэты твор — адметны, знакавы ў беларускай літаратуры, прысвечаны знакамітай гістарычнай асобе.

Як ніколі, нумар часопіса багаты на новыя імёны творцаў. Вось і сярод празаікаў годна дэбютуюць і пінчанін Юрый Саланевіч (з аповесцю пра былых воінаў-афганцаў "Лучшие из лучших"), мінчанін Ігар Александровіч (з аповесцю пра пераможны 1945 год "Горячий паровоз") і таксама пінчанін Мікалай Еляпеўскі (з навелай пра выпадак з нашачаснага жыцця вайскоўцаў "Расстрел"). Усе тры аўтары пішуць па-руску і маюць за плячыма багатую жыццёвую ды і творчую школу. Іх творы чытаюцца на адным дыханні.

Чытачоў часопіса чакае таксама і прэм'ера рубрыкі. У сувязі з тым, што дзяржава надае значную ўвагу ўдасканаленню ідэалагічнай работы ў грамадстве, рэдакцыя выдання распачала новую рубрыку "Идеология. Общество. Государство". Пачынае яе доктар філасофіі (права), член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій Анатоль Власаў артыкулам "Будущее Беларуси — в становлении и развитии гражданского общества". Публікуючы гэты артыкул, рэдакцыя выказвае спадзяванне, што ён выкліча ў многіх жаданне падзяліцца сваімі меркаваннямі, думкамі па закранутай тэме. Тады кожнаму будзе дадзена магчымасць выступіць на старонках часопіса.

Публіцыстыка прадстаўлена таксама артыкулам журналіста Мікалая Жучко "Белорусский рубеж" (пра беларускую абарончую аперацыю на пачатку Вялікай Айчыннай вайны) і артыкулам доктара філасофскіх навук, былога сакратара ЦК КП Літвы Валянціна Лазуткі "Каток" "нового мирового порядка" (аб сучаснай палітычнай сітуацыі ў свеце, падзеях у Іраку).

У рубрыцы "История. Культура. Нация" друкуецца заканчэнне навуковага даследавання Уладзіміра Агіевіча "Скорина неизвестный... или непонятный" (аб новых і спрэчных фактах у нашым скарыназнаўстве).

У рубрыцы "Литературоведение" прапануецца даволі грунтоўны артыкул дацэнта БДУ Маргарыты Яфімавай пра жыццёвы і творчы шлях Янкі Маўра "Таким он был..." Матэрыял прымеркаваны да 120-годдзя з дня нараджэння вялікага майстра прыгодніцкага жанру, класіка беларускай дзіцячай літаратуры.

Пісьменнік, генерал-маёр у адстаўцы Анатоль Сульянаў у рубрыцы "Литературная критика" пранікліва разважае пра кнігі Антаніны Карташовай "Солдаты с косичками" і Аляксандра Магіда "46-й Гвардейский таманский полк", якія ўваскрашаюць старонкі неўміручай мужнасці савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны. Яго артыкул мае ёмкую назву "Поклонимся им". Пра тое, якой цаной была дасягнута Вялікая Перамога ў далёкім 1945 годзе, якія страты на самай справе панеслі СССР і фашысцкая Германія, доказна расказвае кандыдат гістарычных навук Генадзь Жылінскі.

А яшчэ Яўген Каршукоў рэцэнзуе дзве кнігі паэзіі: Міколы Шабовіча "Падары мне сваю адзіноту" і Навума Гальпяровіча "Свята ў акне".

**Павел КУЗЬМІЧОЎ**

**ВАНДРОЎКІ**

## «ТУТ УСЯКАЯ РЭЧ ЯК ГАВОРА З САБОЙ...»

Напярэдадні патэлефанавала дырэктар абласной бібліятэкі імя А. Пушкіна Наталля Чуева і нагадала, што ў межах навуковай канферэнцыі 22 мая супрацоўнікі буйнейшых бібліятэк Беларусі, пісьменнікі, госці з Польшчы, Расіі, выязджаюць у вандроўку па мясцінах Бацькаўшчыны.

Вандроўка наша ў краіну купалаўскай паэзіі пачалася з найстаражытнейшага Даўгінаўскага гасцінца, што налічвае звыш 400 гадоў і калісьці пачынаўся ў Мінску на скрыжаванні сённяшніх вуліц Іерусалімскай, Варвашэні, Чарвякова. Пра назву кожнай можна мовіць, але трэба нагадаць, што менавіта тут была знакамітая Старажоўка, дзе ў паўночна-заходняй частцы былога Менска размяшчаліся старажавыя аховы, якія нельга было абмінуць, накіроўваючыся ў горад. Менавіта па гэтым шляху хадзіў малады Купала ў Мінск і назад у Акопы. Пры Даўгінаўскім гасцінцы праходзілі дзіцячыя і юнацкія гады паэта. Хутка бяжыць і кладзецца пад колы аўтобуса шаша. Мы праязджаем Дубаўляны, Паперню, дзе на мясцовых могілках, што на ўзгорку, знайшоў свой апошні прытулак адзін са старэйшых аксакалаў нашай літаратуры Максім Лужанін. Пры знакамітым гасцінцы на Вячы ў фальварку Казіміраўка калісьці жыў Уладзімір Самойла. Нават сёння даследчыкам цяжка сказаць як бы склаўся лёс Купалы, каб не Уладзімір Самойла, які ў сваім пісьме Б. І. Эпімаху-Шыпілу пісаў: "Канечне, прасіць Вас прыняць удзел у яго лёсе няма чаго. Вы былі хрышчоным бацькам яго твораў, яго літаратурным апекуном, такім і застанецеся для яго асабіста. Мне ён (Купала) вельмі дарагі як адзін недастаткова ацэнены паэт сучаснай Беларусі. Толькі Вы і ацэніце яго правільна. Памажыце яму Вашай цудоўнай выпрабавальнай працай, але захавайце ўсю свежасць юнацкай чысціні і веры сэрцам. У Ваш уплыў я глыбока веру".

З Даўгінаўскага гасцінца збочваем на не менш знакаміты Мядзелскі шлях. Праязджаем Лысую гару, паабапал дарогі стаяць вельмі прыгожыя лясы са звонкімі стромкімі залатымі соснамі. Аўтобус прыпыняецца ў Жукаўцы. Праз вокны аўтобуса (бо не выйсці, таму, што ідзе дождж) усе разглядаюць помнік дойлідства – драўляную царкву, што адноўлена ў 1992 г. Калісьці перад царквой была вялікая плошча, на якой ладзіліся кірмашы. У свой першы прыезд у Акопы да маці ў 1911 г. Янка Купала разам з выдатным музыкам, фальклрыстам Антонам Грыневічам неаднаразова наведваў гэтую мясціну. Менавіта тут, у мястэчку Здарэнец, Купала і Грыневіч запісвалі гутаркі людзей, іх апавяданні. Побач з плошчай цячэ рачулка, што зараз узятая ў трубу. Тут калісьці была знакамітая Пустка, местачковая карчма ў засценку Здарэнец. Менавіта тут сустракаўся Янка Купала з Ядвігінам Ш менавіта тут нарадзіўся адзін з першых псеўданімаў Я. Купалы – Здарэнец.

Едзем далей. Наперадзе – вёска Карпілаўка, што налічвае некалькі дзвароў. Пры дарозе ўказальнік: "Купалаўскі запаведнік "Акопы". Мінаем родны дом паэта, мастака Сяргея Давідовіча. Збочваем да былой сядзібы Ядвігіна Ш. Колькі гадоў ездзім гэтым шляхам і заўсёды ўражвае, што людзей, якія прыязджаюць у гэты прытулак духоўнай моцы, заўсёды сустракае добразычлівы лагодны сабака... Прыпыняемся ў Карпілаўцы. Імжыць нізкаватае неба, не вельмі цёплы дзень для мая, але ўсе прысутныя прыпыніліся ля дуба, пад якім калісьці Ядвігін Ш. пісаў свае творы, і які параўнальна нядаўна быў падпалены вандаламі, але выратаваны добрымі людзьмі. Усе з цікавасцю разглядалі тыя камяні, якія Ядвігін Ш. разам са сваімі сынамі сцягваў з не вельмі ўрадлівага поля... Тут заўсёды думаеш, што нідзе больш на беларускай зямлі няма такога куточка, каб так побач у паўтара кіламетра адзін ад аднаго жылі волаты нашай культуры. У Карпілаўцы – пачынальнік беларускай прозы Ядвігін Ш, у Акопах – прарок беларускай нацыі Янка Купала.

З бетонкі, што ўецца сярод лесу, збочваем на лясную дарогу і назіраем як нізкае неба ляжыць на верхавінах дрэў. Прыпыняемся праз трэцяе поле. Здалёк, на Матчыным Полі Песняра, бачны вялікі замшэлы валун, на якім устаноўлена з белага мармуму шыльда са словамі Янкі Купалы:

*Песню стварыці ясну, як неба,*
*У кожнай з ёй хаце быць мілым гасцём —*
*Гэтакіх толькі скарбаў мне трэба,*
*Гэткім я толькі жыву пачуццём.*

Камяні і крыжы заўсёды лічыліся ў беларусаў моцным духоўным апірышчам.

Пад'язджаем да мемарыяльнага знаку "Акопы". Аўтобус прыпыняецца. Усе з цікавасцю аглядалі падмурак былога дома, месца, дзе былі пабудовы. Накіроўваемся ў вёску Харужанцы, дзе на месцы былога хутара Міхалішкі, знаходзіцца музей "Акопы". Разам з намі адначасова пад'ехалі гаспадары Лагойскай зямлі і артысты. Па дарозе да музея нас сустракае малады няўрымслівы Купала (аўтары помніка А. Заспіцкі і Г. Мурамцаў).

Музейная экспазіцыя "Янка Купала і Лагойшчына" знаёміць з жыццём і творчасцю паэта ў розныя гады. З музея ўсе ўдзельнікі ідуць да прыгожай паляны, дзе звычайна праходзяць святы, збіраецца шматлікая колькасць людзей у розныя гады і часы. Адкрыла свята загадчык аддзела культуры Лагойска Ніна Пятроўская, якая расказала прысутным пра слынных землякоў Купалы Ядвігіна Ш, З. Бядулю, Н. Гілевіча, М. Гіля, М. Зарэмбу. Перад прысутнымі як заўсёды хораша выступілі паэты Людміла Рублеўская, Навум Гальпяровіч, Віктар Шніп, маладая паэты з Лагойска Ірына Грыгор'ева, Мікола Ляшчун, Інга Гаравая. Выступленне паэтаў з Мінска і Лагойшчыны перамежваў цудоўны ансамбль мастацкай самадзейнасці "Шчодрыца".

**Людміла ДАВІДОЎСКАЯ,**
**заг. навукова-асветніцкага аддзела музея Янкі Купалы**

# НА ХВАЛЯХ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ

**Героямі праграм "Брама", "Авансцэна", "Палітра", "Сентыментальнае паляванне", што прагучаць традыцыйна ў аўторак, сераду, чацвер, пятніцу ў 22.30, будуць выступаць як вядомыя пісьменнікі, так і літаратурная моладзь. Як заўсёды, насычаны інфармацыяй будзе "Літаратурны праспект", што прагучыць у суботу, у 10.45. У гэты ж дзень — праграма "Клас і К" — у 16.45. У нядзелю, у 21.30 у "Канцэртнай зале" — традыцыйная паэтычная старонка.**

**Нямала літаратурных перадач на наступным тыдні запланавана на канале "Культура". У "Клубе дамаседаў" працягваецца чытанне аповесці У. Караткевіча "Сівая легенда". У панядзелак, у 17.00 — радыёкампазіцыя спектакля па п'есе У. Шэкспіра "Кароль Лір", "Літаратурны аўторак" з Галінай Шаблінскай прагучыць 10 чэрвеня з 14.10 да 17.00. У 17.00 — "З фондаў радыё" Я Пархута. "Крывічы". Частка першая.**

**У пятніцу ў 17.00 — "З фондаў радыё". Паэтычны радыётэатр. Вершы Рыгора Барадуліна і Ніны Загорскай.**

**У суботу на канале "Культура" — паўтор перадач "Сентыментальнае паляванне" (9.00), "Гаспода" (10.10), "Брама" (15.45).**

**У нядзелю, 15 чэрвеня, — "Тэатр перад мікрафонам". Л. Зорын, "Перакрыжаванне". Спектакль. "Песня кахання". Радыёкампазіцыя, А. Блок — вершы ў перакладзе П. Місько. В. Дунін-Марцінкевіч. "Пінская шляхта". Урывак са спектакля.**

**Н. К.**

●

**Ва ўсе часы музыка з'яўлялася найвышэйшай праявай чалавечых пачуццяў. У гармоніі гукаў — усё — і радасць, і смутак, і шчасце, і боль. Чаму гранне адных закранае таямнічыя струны душы, прымушае плакаць і ўзлятаць высока, а ў іншых — нават не выклікае эмоцый? Калісьці 16-гадовы Максім Багдановіч адказаў на гэта пытанне ў сваім першым творы, вершы ў прозе "Музыка". "...І ніхто не мог растлумачыць, чаму ад грання музыкі так моцна білася сэрца бедакоў. Ніхто не ведаў, што музыка ўсю душу сваю клаў у ігру..."**

**Пад гэтым знакам — знакам музыкі — 28 мая ў філіяле Літаратурнага музея М. Багдановіча "Беларуская хатка" адбылася сотая сустрэча яе сяброў. Невялікая зала напоўнілася цудоўнымі мелодыямі 30-х гадоў. Таямніцу чароўнай музыкі прыадчынілі прысутным мастак-графік, майстра музычных інструментаў Аляксандр Лось і аўтэнтычны акардыяніст (дарэчы, па прафесіі біяфізік) Юзэф Міхалоўскі. Віртуознае гранне музыкаў "жывых", папулярных у нашых бацькоў і дзядоў полек, мазурак, вальсаў, перанятых імі ад саміх носьбітаў падчас экспедыцый у межах Вілейкі — Смаргоні — Крэва, настолькі захапляла, шт немагчыма было ўседзець на месцы: ногі самі выстуквалі такт кожнай мелодыі. Ды і танцаваць не забаранялася, таму знайшліся жадаючыя пераўтварыць сустрэчу ў сапраўдную вечарыну 30-х. Са словаў Аляксандра Лася можна было даведацца пра гісторыю з'яўлення гэтых танцаў на Беларусі, пра іх адметнасці ў пэўных рэгіёнах, пра старых тутэйшых музыкаў, майстэрству якіх можна сёння толькі пазайздросціць. А ў канцы сустрэчы кожны пачаставаўся святочным пірагом, спечаным з нагоды юбілейнай сотай вечарыны. Сябры пакідалі "Беларускую хатку" са словамі ўдзячнасці выступоўцам і супрацоўнікам музея, са шчырым жаданнем зноў сустрэцца пад дахам Максімавага дома.**

**Т. ДУБОЎСКАЯ**

●

**У Магілёўскім дзяржаўным бібліятэчным тэхнікуме імя А. С. Пушкіна адбыўся вечар, прысвечаны 58-ай гадавіне Перамогі над фашысцкай Германіяй. Навучэнцы тэхнікума выканалі літаратурна-музычную кампазіцыю пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны. Ветэран вайны Заслужаны работнік культуры рэспублікі Беларусь артыст Валянцін Ермаловіч расказаў некалькі эпізодаў з жыцця сваёй ваеннай маладосці і прачытаў вершы беларускіх паэтаў-франтавікоў. А закончыў сваё слова радкамі сябра-паэта Аляксея Пысіна:**

*Бяру з сабой нялёгкія дарогі,*
*Сляды пакут, што не датлелі там,*
*Бяру з сабой бяссонныя трывогі,*
*А юны свет — я юным перадам.*

**Віктар АРЦЕМ'ЕЎ**





**Хведар ЖЫЧКА**

# БЫЛО І ТАКОЕ...

## СЯЛЯНСКАЕ ДЗІЦЯ

Першая падораная кніжка з аўтографам аўтара... Ці ж такое забудзеш? Я прывёз яе на Балтыку, паказаў сябрам і схаваў у чамадан на самае дно. Калі смутак агортваў душу, ціхенька даставаў і каторы раз з асалодай перачытваў напісаныя размашыстым почыркам словы: "На памятку тав. Жычку Ф. Д. ад Міколы Засіма. г. Мінск, 22. VI. 49".

Ішоў Другі з'езд пісьменнікаў Беларусі. Перад пачаткам пасяджэння з Міхасём Даніленкам гулялі мы ў скверыку на вуліцы Энгельса. Нас дагнаў мажны мужчына, прывітаўся і пачаў гаворку пра самыя будзённыя справы: чаму ў горадзе спякота даймае больш, чым у вёсцы, на якой падэшве тут лепш насіць абутак... І раптам пытанне:

— А вы маю кніжку чыталі?

Я ўжо забыўся, што іду з пісьменнікамі. Было такое адчуванне, нібы мы недзе ў вёсцы слухаем мудрага спрактыкаванага дзядзьку. Разгубіўся і Міхась, але хутка ачапомкаўся і сказаў, што не бачыў яшчэ ў продажы.

— То я вам, хлопцы, падпішу. Прачытайце, добрыя вершы, — сказаў так проста, без задавацтва, нібы пра чужыя.

У той жа дзень і падпісаў мне свой першы зборнік "Ад шчырага сэрца" 1947 года выдання. Сапраўды, вершы мне спадабаліся. Яны былі простыя, натуральныя, як і сам аўтар. Праўда, у тэкстах сустракаліся дыялекты Брэстчыны, незразумелыя мне словы: "секвестратар", "ровэр", "гумы". Затое самі лезлі ў галаву радкі:

*Ішоў Якуб лыка драці,*
*З кіем, ведама, з нажом.*
*І ўбачыў на няшчасце*
*Зайца ў яме пад карчом.*

*Вось дзе будзе крупнік важны!*
*Стукнуў зайца кіем ў нос, —*
*Лыка потым! — і адважна*
*Ён варыць яго панёс.*

Праз два гады я сустрэўся з Міколам Арцёмавічам у Доме творчасці "Каралішчавічы". Месяц жылі разам, многа гутарылі, пазнаёміліся бліжэй. Не ведаю, як ён, а я проста палюбіў яго, хаця розніца ўзросту ў нас была каля дваццаці гадоў. Яго сялянская наіўнасць, шчырасць і прастата выклікалі не толькі ўсмешку, але зачастую і дружны выбух рогату. Бывала, у сталоўцы чуецца яго густы бас:

— Дзяўчо! Ты гэта што мне прынесла?

— Эскалоп, — адкажа афіцыянтка. — Вы ж заказвалі.

— То слухай, любая, пакладзі яшчэ адзін такі... а то і два. Ці ж ты не бачыш, што гэтага мне будзе мала?..

Вечарам, калі трэба рабіць заказ на заўтра, зноў чуецца яго голас:

— Скажы, дзяўчо, што такое — зразы? Мяса? Ну то і пісалі б проста — мяса.

Ён са смакам расказваў нам, як пасля вызвалення працаваў у Пружанскім райвыканкаме:

— Сяляне мяне любілі, казалі, такога начальніка ў іх ніколі не было. Я па вёсках на кані ездзіў. Завеі, мароз. Завядуць да заможнага дзядзькі, кварты тры самагону вып'ю ды чыгун мяса з'ем — ніякага марозу не чую! Сяду на сані, кажух з плячэй скіну, рукавы закасаю і еду. Уся вёска выбягала глядзець на "савецкага секвестратара", — не нейкі там задрыпаны шляхцюк — багатыр! Таму і любілі.

Расказваў і больш трагічнае — як у час акупацыі з-пад расстрэлу ўцёк, начаваў у чужых гумнах, копах сена, галадаў... Мы слухалі, затаіўшы дыханне. А назаўтра зноў падсмейваліся, распальвалі яго наіўнасць, прыдумвалі частушкі накшталт:

*Прэ, як ашпараны, з Мінска Засім,*
*Зіна Бандарына — верхам на ім.*

Ён не крыўдзіўся (не ведаю, ці мог ён наогул крыўдзіцца на каго-небудзь), пазіраў на нас, як на блазнаў.

У той час Піліп Пестрак выдаў першую частку рамана "Сустрэнемся на барыкадах". Мікалай Арцёмавіч спытаўся, ці чытаў я гэты твор.

— Чытаў, — кажу.

— Праўда ж, добрая рэч? Давай з табой напішам рэцэнзію для нашай абласной газеты, га?

Я з радасцю згадзіўся. Так у брэсцкай абласной газеце "Зара", якая выходзіла на рускай і беларускай мовах, 9 лютага 1952 года была апублікаваная пад двума подпісамі — маім і М. Засіма рэцэнзія на раман П. Пестрака.

Пазней мы неаднойчы сустракаліся і ў Мінску, і ў Брэсце.

19 ліпеня 1957 года ва ўзросце 49 гадоў Мікола Засім памёр. Яго шкадавалі ўсе, бо ні ворагаў, ні зайздроснікаў ён не меў.

## ПАКУТНАЯ ДАРОГА

Таленавітым майстрам слова яго назвалі ў дзень пахавання. Тады ж яго хударлявае цела было ўпершыню апранута ў дабротны новы гарнітур. Да гэтага мала хто бачыў Аркадзя Дзмітрыевіча Чарнышэвіча чыста паголенага і ў прыстойнай, адпрасаванай вопратцы. За некалькі дзён да сваёй смерці ён прыйшоў у рэдакцыю, шэптам нешта спытаўся ў сакратаркі, прысеў, хаваючы пад зэдлік абутыя ў летнія сандалеты ногі (стаяў зімовы марозны дзень), аддыхаўся і ціхенька выйшаў.

Такім і запомніўся. Яшчэ засталася яго кніжка "На сажалках" з падарункавым аўтографам на тытуле — гэта ў знак таго, што мы ў газеце "Піянер Беларусі" калісьці, яшчэ да выхаду асобнай кнігай, друкавалі ўрыўкі з гэтай аповесці...



Усе ведалі, што Чарнышэвіч нядаўна вярнуўся з ссылкі, жыве ці то ў Мядзелі, ці то ў Радашковічах, працуе настаўнікам пачатковай школы, піша добрыя апавяданні, якія зрэдзь друкавалі рэспубліканскія часопісы. Як "дзіцячага" пісьменніка пасля выхаду аповесці "У адной сям'і" (1951) і зборніка апавяданняў "Зосін лужок" (1952) А. Чарнышэвіча ў 1954 годзе прынялі ў Саюз пісьменнікаў, і ён пераехаў жыць у Мінск. У яго было мноства творчых задум, а цяпер з'явіліся і жыллёвыя ўмовы, і ён перайшоў на творчую працу. Неяк зводзіў канцы з канцамі. Пісаў, друкаваўся, выдаваў кнігі. Напалоханы ссыльнымі парадкамі, ён быў негаваркі, асцерагаўся выпадковых знаёмстваў, страшэнна не любіў і баяўся фальшывых людзей, разгадваў іх з першага погляду. Бывала, пытаецца:

— Слухай, што гэта за чалавек? Балбоча абы-што, а вочы хлусяць...

Ён любіў дапамагаць маладым і пачынаючым пісьменнікам, ахвотна правіў іхнія рукапісы, а тыя стараліся яму аддзячыць, запрашалі на "чарку". Аркадзь Дзмітрыевіч не адмаўляўся, ён рэдка бываў "на людзях" і ў гасцях, рады быў пагаманіць са "сталічнымі пісьменнікамі", хоць яго слабы арганізм баяўся перагрузак. Папаўзлі чуткі, што Чарнышэвіч співаецца, што ён агрубеў, скандаліць дома і г. д. А ён жа быў у душы лірык, усё жыццё пісаў вершы, тонка адчуваў прыроду:

*Патанула сонца ў хмары,*
*І ўскіпела хмара тая,*
*Зыркім полымем палае.*
*Я люблю такі пажар.*
*Я на гэтакім пажары*
*Сам бы ўспыхнуў на імгненне*
*І згарэў ад захаплення:*
*Бліснуць раз і то не жарт.*

А колькі паэтычных лірычных адступленняў, маляўнічых апісанняў роднай прыроды можна адшукаць у ягонай прозе! І ці напісаў бы ён столькі кніжак, заглядаючы ў чарку? Не, мы не маем права ўзводзіць паклёп на гэтага здольнага і працавітага пісьменніка. Пражыў ён усяго 55 няпоўных гадоў, з якіх каля 20 быў гвалтоўна адарваны ад роднай зямлі, роднай мовы.

Памёр Аркадзь Чарнышэвіч 18 студзеня 1967 года.

— Учора ж ён быў у мяне, дапазна сядзелі, — выхваляўся паэт Анатоль Астрэйка.

— Не можа быць! — пачуўшы пра яго смерць, здзівіўся і драматург Іван Козел.

— А дні тры таму мы з ім яшчэ і паўлітэрку раздавілі, — сказаў, ідучы з пахавання, журналіст Канстанцін Папкоўскі.

Так "сябры" дапамагалі хвораму...

Хавалі Чарнышэвіча на могілках на Маскоўскай шашы. Быў халодны ветраны дзень. Некалькі развітальных слоў сказаў і А. Астрэйка.

## «ДА ТЫХ ПАЛЯН, ДЗЕ ВЕРАСЫ...»

Помню, у часопісе "Беларусь" былі надрукаваны два вершы невядомага тады мне аўтара — Васіля Матэвушава. Запомніўся першы з іх:

**НА КАМЕНІ**

*На камені ў Хінганскай цясніне*
*Штыком напісаў на ўспамін,*
*Што быў я ў Маньчжурскай краіне*
*Не ў пошуках шчасця хвілін,*
*Што радасць жыцця беларуса*
*Жыве сярод пушчаў і ніў,*
*Што ў фанзах Хайлара, Цзямусы*
*Нікому бяды не зрабіў.*
*Я тут нават думкай не марыў*
*Каменьчыка ўзяць ад гары,*
*Са зброяй прыходзіў, каб хмары*
*Развеяць з усходняй зары.*

Можна было здагадацца, што аўтар — не пачатковец, не юнак, а ўдзельнік вайны з Японіяй. На мой роспыт сказалі, што піша ён даўно, жыве ў Магілёве. Восенню 1952 года я быў зацверджаны на пасаду ўласнага карэспандэнта газеты "Чырвоная змена" па Магілёўскай вобласці і пераехаў на часовае жыхарства ў Магілёў. Там і пазнаёміўся бліжэй з Васілём Іванавічам.

Рэдакцыя абласной газеты "За Радзіму" размяшчалася на першым паверсе славутага Дома Саветаў, які будаваўся па ўзоры мінскага Дома ўрада на выпадак пераносу сталіцы рэспублікі ў Магілёў (выношваліся і такія планы). У гэтым, самым вялікім у горадзе будынку знаходзіліся амаль усе абласныя ўстановы, і нам, газетчыкам, было лёгка збіраць і ўдакладняць звесткі аб "працоўных подзвігах слаўных магіляўчан".

Васіль Іванавіч, адзіны на ўсю вобласць член Саюза пісьменнікаў (нейкі высакапастаўлены чыноўнік публічна назваў яго "действительным членом Союза советских писателей") карыстаўся вялікай папулярнасцю і аўтарытэтам, дапамагаў мне звязвацца з патрэбнымі кіраўнікамі раёнаў і ўстаноў, падказваў тэмы для артыкулаў і фельетонаў, арганізоўваў сустрэчы са студэнтамі і творчай моладдзю. Спакойны і разважлівы, ён усё рабіў трывала і надзейна.

Такая ж была і яго паэзія: нешматслоўная, простая, па-сялянску мудрая. У яго няма даўжэзных сюжэтных балад, ён умеў усё сказаць васьмю-дванаццаццю радкамі:

*У кожнага ёсць ясны золак*
*І крылы дужыя свае...*
*І калі ты адчуеш кволасць,*
*Што быццам сілы нестае,*
*Спяшай да бору, дзе на ўзлеску*
*Пад дубам ранняю вясной*
*На тоненькайназе пралеска*
*Трымае сонца над зямлёй.*

Друкавацца Васіль Матэвушаў пачаў у 1932 годзе, а першы зборнік яго вершаў "Магілёўскі шоўк" выйшаў у 1957 годзе. Праўда, перад ім выйшла некалькі брашур — з празаічнымі нарысамі пра перадавікоў сельскай гаспадаркі і прамысловасці Магілёўшчыны.

Пазней, працуючы загадчыкам рэдакцыі выдавецтва "Беларусь", я планаваў на 1972 год чарговы зборнік вершаў В. Матэвушава. На пасяджэнні рэдсавета старшыня Камітэта па друку Рыгор Васільевіч Канавалаў папракнуў мяне:

— Што гэта вы плануеце яму адны толькі брашуркі. Васіль Матэвушаў адзін са старэйшых паэтаў, мае многа добрых вершаў. Вось і парайце яму сабраць усё лепшае, і выдадзім яму салідную кніжку.

Так нарадзіўся зборнік "Верасы", у якім сабрана ўсё лепшае, што паспеў стварыць гэты нястомны працаўнік і добры чалавек.

Калі мне выпадае ехаць аўтобусам ці машынай з Мінска, я пільна ўглядаюся ў акно, каб не прапусціць блакітных указальнікаў з надпісамі "в. Княжыцы" і "в. Сумарокава". Яны, гэтыя гістарычныя вёскі стаяць недаязджаючы кіламетраў дванаццаць-пятнаццаць да Магілёва. Даўным-даўно, напрадвесні 1953 года прыязджаў я сюды пісаць замалёўку пра калгасную радыстку Маню Камарову. А летам таго ж года нас, ватагу журналістаў, заманіў сюды, на сваю радзіму Васіль Іванавіч Матэвушаў. Мы хадзілі маляўнічымі ўзгоркамі, шукалі ў маладым бярэзнічку грыбы і, не знайшоўшы іх, плёскаліся ў пакручастай рачулцы Лахве, дурэлі...

*Калі ў бары кагось шукаю*
*Іду заўсёды напрасцяк.*
*Любая ж сцежка ў родным краі*
*Мяне выводзіць на бальшак, —*

пісаў В. Матэвушаў у 1969 годзе. А 6-га сакавіка 1974 г. у 59-ты дзень свайго нараджэння, памёр.

## "ЯК ЧАЙКА НА СВОЙ МАЯК..."

Верш "Ад'езд" Аляксея Бурдзялёва (Русецкага), я прачытаў у тым жа дзесятым нумары "Полымя" за 1947 год, дзе былі надрукаваны першыя мае вершы. Незнаёмы мне Аляксей нібы чытаў мае думкі, паўтараў маю тугу па радзіме:

*Я "Полымя" ўзяў, — разгарну, калі*
*прытулку папросіць сэрца,*
*агністым кавалкам свае зямлі*
*пад сцюжамі буду грэцца.*

Гэтыя радкі я часта паўтараў сам сабе, бо за сем гадоў марской службы давялося перажыць многа і тугі, і роспачы, і адчаю. І неаднойчы душу саграваў прысланыя з Беларусі часопісы і газеты, пісьмы сяброў. А якая была радасць на рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў даведацца, што чалавек, які ўзяў на сябе клопат аб дабрабыце пачаткоўцаў прыехаўшых з розных куткоў рэспублікі і з-за яе межаў, і ёсць паэт Аляксей Русецкі.

Ён не любіў вылучацца вастраслоўнымі прамовамі на нарадах ці за банкетным сталом, не лез у спрэчкі і палеміку, быў пунктуальны на працы і ў перапісцы, патрабавальны да аўтараў, калі працаваў у рэдакцыях.

Аднойчы, у Дзень Перамогі, вяртаючыся з традыцыйнай сустрэчы ветэранаў, я сказаў Аляксею Сцяпанавічу, што лепш за яго яшчэ ніхто не сказаў пра наш часопіс "Полымя" і прачытаў на памяць прыведзеныя вышэй радкі з яго верша "Ад'езд".

— А ў вас добрая памяць, — здзівіўся ён.

— Добрае і помніцца добра, — адказаў я.

— Гэта праўда, — згадзіўся Аляксей Сцяпанавіч.

Адзін крытык у гутарцы назваў яго "нашым Цютчавым". Не ведаю, наколькі правамоцнае такое параўнанне. Для мяне Аляксей Русецкі з'яўляецца арыгінальным і таленавітым беларускім паэтам. Без усялякіх там прывязак і параўнанняў.

## ПАТРЫЯРХ ДЗІЦЯЧАЙ ЛІТАРАТУРЫ

У дзяцінстве я з захапленнем чытаў яго кніжкі, якія браў у бібліятэцы Стрэшынскай школы. А таўсцюшчы, як цагліна, том рамана "Амок" ляжаў на пачэсным месцы — пад абразамі — у нашай хаце, яго купіў бацька ў Жлобіне. Нават сёння заплюшчу вочы і бачу вокладку тае кнігі, дзе быў намаляваны раз'юшаны чарнаскуры тубылец з крывым нажом, нацэленым у грудзі каланізатару. Помню і назву першага раздзела рамана: "Там, дзе грукатаў Кракатаў".

Нават і ў думках я тады не дапускаў, што змагу сустрэцца з пісьменнікам, аўтарам гэтых цікавых кніг: уяўлялася, што такія кнігі пішуць незвычайныя людзі — волаты і мудрацы...

І ўсё ж пашчасціла — сустрэўся. І неаднойчы.

З 1953 года я стаў працаваць у рэдакцыі дзіцячай газеты "Піянер Беларусі", якая мела цесную сувязь з вядомым пісьменнікам. Па яго ініцыятыве і пры актыўным яго ўдзеле ствaралася вядомая кніга "Ніколі не забудзем" — расказы дзяцей аб перажытай вайне. Мы часта званілі яму па тэлефоне, раіліся па важных пытаннях, запрашалі ў рэдакцыю. А ў дзень яго нараджэння — 10 мая прыходзілі да яго на кватэру (жыў ён блізка ля рэдакцыі) з кветкамі і падарункамі. Івану Міхайлавічу было ўжо 70 гадоў, ён стаў губляць зрок. Але па-ранейшаму быў вострым на слова, аптымістам і гумарыстам, даваў такія трапныя характарыстыкі высакапастаўленым чыноўнікам, што нам ён здаваўся самым відушчым чалавекам на зямлі.

Пасля аперацыі ён стаў бачыць крыху лепш, але настрой яго не падняўся, — пачаліся нападкі на яго новы твор — "Фантамабіль прафесара Цылякоўскага", у якім ярыя "вучоныя-марксісты" ўбачылі прапаганду "буржуазнага цемрашальства". А ідэю гэтага твора — аб магчымасці ў недалёкім будучым скарыстаць энергію біятокаў — падказаў пісьменніку яго сын, выдатны савецкі фізік Фёдар Іванавіч Фёдараў. Пытанні новай навукі — кібернетыкі хвалявалі многіх вучоных свету. Толькі ў Савецкім Саюзе яе лічылі антынавукай, забабонамі.

— Гэта ўжо другая мая кніжка, якую бракуюць "вучоныя", — расказваў з усмешкай Іван Міхайлавіч. — Першай была аповесць "ТВТ". Напісаў я яе раней, чым Гайдар свайго "Цімура і яго каманду". Можа, у тым і бяда, што раней... Як накінуліся на мяне! Школьнікам, кажуць, вучыць урокі трэба, а не рамантаваць мэблю... А во, глядзіце, жыццё прывяло і да мэблі, і абеды гатаваць у школе дзяўчынак вучаць, а хлопцаў за такарныя станкі пасталі... Толькі цяпер гэта называюць палітэхнізацыяй, а я назваў "Таварыствам ваяўнічых тэхнікаў". Дасць Бог, дажыву і да кібернетыкі...

Не дажыў, памёр 3-га жніўня 1971 года. Ганаровае званне "Заслужаны дзеяч культуры БССР" прысвоілі яму яшчэ пры жыцці, у 1968 годзе. А Лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР Янка Маўр стаў праз год пасля смерці, у 1972 годзе, і ў пераліку твораў, за якія прысуджана прэмія, "Фантамабіля прафесара Цылякоўскага" няма.

## АБАРОНЦА БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ

Неяк у спякотны летні дзень 1951 года, яшчэ пры Сталіне, са сваім сябрам Косцем Папкоўскім я піў піва ў сталоўцы на Камароўскім базары. Да нас падсеў Косцеў знаёмы, кульгавы малады хлопец. Яны пагаманілі крыху аб нечым сваім, і мы разышліся.

— Ты ведаеш, хто гэта такі быў? — спытаўся Косця і сам адказаў: — Алесь Махнач, абаронца Брэсцкай крэпасці.

— Герой, значыць?

— Ага, "герой", — хмыкнуў Косця. — Хоча во ў Мінск пераязджаць, паступаць куды вучыцца.

— Прымуць, — кажу, — без экзаменаў.

— Ыгы, — зноў хмыкнуў той. — Ты бачыў, што ён кульгае. Паранены, у палоне быў... а ты ж ведаеш, што гэта азначае...

Вядома, ведаў... Але праз нейкі час убачыў Алеся ў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва", а яшчэ праз колькі гадоў сустрэліся ў Маскве ў Літаратурным інстытуце на адным курсе завочнага аддзялення. Помню, вечарам пасля працы ў апусцелай рэдакцыі "ЛіМа" пісалі разам кантрольную работу па "Барысу Гадунову" А. Пушкіна. Алесь прывалок нейкі старынны фаліянт, дзе з буржуазных рэакцыйных пазіцый разбіралася класічная драма, а мы "перакручвалі" той разбор, падганялі яго пад марксісцкі светапогляд... А потым заядалі прынесенымі Алесем смачнымі катлетамі...

Мінаў час, мяняліся палітычныя сітуацыі... На ўвесь Саюз па радыё загрымеў палымяны голас Сяргея Сяргеевіча Смірнова аб герaічнай абароне Брэсцкай крэпасці. Былыя "ізгоі" і "здраднікі" станавіліся героямі, іх ушаноўвалі, узнагароджвалі...

У Брэсце рыхтавалася нейкае вялікае свята, прысвечанае абароне Брэсцкай крэпасці-героя. Паехаў і я туды ад рэдакцыі газеты "Піянер Беларусі". Там убачыў я ўсіх яшчэ жывых на той час абаронцаў, славутага Сяргей Сяргеевіча Смірнова, бачыў слёзы на вачах герояў, занатоўваў іх узнёслыя ўспаміны, пазнаёміўся з Пецем Клыпам. Прысутнічаў там, вядома, і Алесь Махнач. У маім архіве дзесьці ёсць і фотаздымкі, на якіх можна ўбачыць нас і каля Цiраспальскіх варот, і ля бастыёнаў. Алесь больш знаходзіўся ў цэнтры ўвагі і трапляў пад аб'ектыў часцей, чым я.

Помніцца адна сустрэча ўжо і ў новым стагоддзі, здаецца. Мы ўжо абодва пастарэлыя, аслаблыя, на нейкім зборышчы прыселі ў фае на канапку, перакінуліся прывітаннямі, нешта сказалі адзін аднаму прыветнае, нешта ўспомнілі прыемнае, нешта пажадалі адзін аднаму і развіталіся... Аказалася — назаўсёды.

Засталося некалькі падораных і падпісаных мне брашурак з яго п'есамі (тоўстых кніг, здаецца, ён не выдаваў), засталася светлая памяць аб гэтым дабрэйшым чалавеку, сумленным пісьменніку.

## СКУПЫ НА СЛОВЫ

Як і я, ён доўга таптаўся ля парога першай кнігі. Як і мяне, спрытнюгі-паэты лічылі яго па-за сферай "высокай" паэзіі, за вочы называлі няўдачнікам, які співаецца. Я ж ведаў, што Генадзь не п'е, ажаніўся, мае дзіця, жыве на прыватнай кватэры — выдаткі вялікія, а заробак маленькі. Ягоных вершаў не ўсе рэдакцыі прымалі — яны мелі нейкі нязвычны рытм і, галоўнае, — не ўслаўлялі "вялікага і мудрага".

Можа, таму я і быў такім непатрабавальным рэдактарам да яго першай кнігі "Абветраныя далягляды", якую крытыкавалі і ў друку, і на словах. А калі крытыкуюць, абавязкова ўспамінаюць і рэдактара: "Вы, таварыш Жычка, пускаеце ўсіх падрад", — сказаў на нейкай нарадзе дырэктар выдавецтва З. Матузаў.

Першая кніжка акрыліла Генадзя Якаўлевіча. Ён быў добрым стылістам і бязлітасна скарачаў свае вершы, дабіваўся лаканічнасці і выразнасці:

*Не шкадую зусім,*
*што доўгая размова*
*След парою цяжкі*
*ў тваім сэрцы пакіне.*
*...Я на словы скупы,*
*калі гэтыя словы*
*Толькі раз. у жыцці*
*гаварыць я павінен.*

Гэта — з другой яго кнігі "Сто крокаў" (1967), якую таксама давялося рэдагаваць мне.

Пісаў Генадзь Кляўко і гумарыстычныя вершы (выдаў тры зборнікі), і вершы для дзяцей. Ад кнігі да кнігі мацнеў ягоны голас, шырыўся круг чытачоў і прыхільнікаў. Яго запрасілі працаваць у рэдакцыю часопіса "Полымя", дзе ён вырас да намесніка галоўнага рэдактара.

Памёр Генадзь Кляўко 21 жніўня 1979 г.

## ЁН ЗЛА НІКОМУ НЕ ТВАРЫЎ...

У маладосці ён пісаў пра ўсё: і пра партызанскую вайну, і пра будаўніцтва калгасных электрастанцый, і пра ўборку багатых ураджаяў, і пра сваю любімую прафесію ("Мог стаць у жыцці камандзірам, — настаўнікам стаў назаўжды"). Аднаго не кранаў — сваіх інтымных пачуццяў, трымаў іх за сямю замкамі. Магчыма, гэта нейкі педагагічны такт, — сваё жыццё Уладзімір Ігнатавіч прысвяціў педагагічнай працы. У мяне захавалася біяграфічная даведка, напісаная рукой Ляпёшкіна да першай яго кнігі, "Ранішнія росы" (1961):

"Уладзімір Ігнатавіч Ляпёшкін нарадзіўся ў 1928 годзе ў в. Церабель Пухавіцкага р-на, Сяргеевіцкага с/савета ў сям'і настаўніка. Вучыўся ў Церабельскай пачатковай школе, у Сяргеевіцкай няпоўнай сярэдняй школе, дзе да пачатку Айчыннай вайны скончыў 7 класаў. У часы Айчыннай вайны аказваў дапамогу партызанам, у радах якіх былі браты, аднавяскоўцы. У 1947 годзе скончыў сярэднюю школу ў Рудзенску і паступіў у Мінскі педінстытут на літаратурны факультэт. З 1951 года працуе выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры. Член КПСС з 1957 года.

Вершы Ляпёшкіна друкуюцца з 1949 года ў газетах "Чырвоная змена", "Піянер Беларусі", "Літаратура і Мастацтва", у часопісах "Полымя", "Беларусь", "Работніца і сялянка".

У жыцці Ляпёшкін не быў такім закасцянелым педантам: ён умеў і захапляцца, і жартаваць, і абурацца, і кахаць. Пазней, у зборніку "Вусце" (1973) ён прызнаецца:

*Толькі ты ўсё мроішся у сне.*
*І калі тваю пачую песню...*
*Так і цягне вечарам мяне*
*Да тваіх, знаёмых змалку, весніц.*

У выдадзены да 50-годдзя паэта зборнік "Перадлецце" (1978, нешта накшталт выбранага) аўтар уключыў і раздзел "Новыя вершы. 1976—1977 гг.", дзе ёсць такія прызнанні і пра сваю творчасць:

*Загатоўку браў, як залатую,*
*А зрабіў — паблекла, быццам медзь,*
**І пра свае адносіны да каханай:**
*Ніхто з нас не муціў вады,*
*Ніхто не заслужыў дакору,*
*І за пражытыя гады*
*Нам ані кропелькі не сорам.*
**Пра сябе:**
*Зазнаў пад'ёмы, зведаў спады,*
*І хоць, здаецца, не спяшыў,*
*Ды спатыкаўся, нават падаў*
*Перш, чым дабрацца да вяршынь.*

*Заўсёды быў я чалавекам*
*І зла нікому не тварыў...*

Як вайсковаабавязаны Уладзімір Ляпёшкін меў воінскую спецыяльнасць дэсантніка, яму часта даводзілася бываць на зборах, дзе прымушалі скакаць з парашутам і ўдзень, і ноччу.

— Цяжкая гэта справа, — расказваў ён. — Страшэнна дзейнічае на нервы. А ўдзячнасць адна, во, — і тыцкаў пальцам у нейкі значок на грудзях — за пэўную колькасць скачкоў...

**ЗАХАРАВА, 19**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**прымае да разгляду:**

***выдавецкія праекты самай шырокай тэматыкі;***

***выканае ўвесь спектр рэдакцыйна-выдавецкіх паслуг (ад рэдагавання рукапісу да выдання і распаўсюджвання кніжнай прадукцыі);***

***арганізуе рэкламу і прэзентацыю выданняў.***

**Вул. Захарава, 19, тэл.: 284-85-25.**

Выдавецкая ліцэнзія — ЛВ № 570 ад 23 кастрычніка 2002 года, выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Пішыце на адрас: 220005, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"; EMAIL: gazeta_lim@tut.by.**




31 мая адбылося чарговае пасяджэнне суполкі маладых пісьменнікаў "Літаратурны квартал". На гэты раз яно было незвычайным і не толькі таму, што праходзіла ў суботу, а не як заўсёды ў чацвер, а таму што было выязным на славутую Лысую гару, якую апеў Вядзьмак Лысагорскі. На жаль не ўсе змаглі паехаць, бо ў многіх літкварталаўцаў, што вучацца ў ВНУ, пачаліся экзамены. Але ў тых, хто прысутнічаў на чарговым пасяджэнні, засталіся незабыўныя ўражанні ад маляўнічых мясцін, што багацце з Лысай гары, ад вогнішча, якое надавала чытанню твораў своеасаблівае гучанне. А чыталі свае творы Мікола Кандратаў, Наталля Капа, Таццяна Барысюк, Дар'я Лосева, Аксана Спрынчан, Таццяна Будовіч, Рагнед Малахоўскі, Яўген Рамяніца, а таксама кіраўнікі суполкі Людміла Рублеўская і Віктар Шніп. 5 чэрвеня літкварталаўцы ідуць на паэтычную вечарыну "Святло ў акне", якая адбудзецца ў тэатры аднаго акцёра "Зьніч",

# АТРУТНЫЯ ЯГАДЫ НЯНАВІСЦІ

**І паўстаў брат на брата. І загінула мноства людзей. І з іх крыві вырас атрутны парастак, які потым ператварыўся ў дрэва. І ягады на ім былі падобныя на вішні. І тыя, хто еў іх, вар'яцелі і паміралі. І называлася гэта дрэва — удог.**

**"Удог" — назва трылогіі прыпавесцей, уключанай у новую кніжку вядомага беларускага празаіка Франца Сіўко, якая сёлета выйшла ў віцебскім выдавецтве пад найменнем "Ягня ахвярнае" (прыпавесці, аповесць). Перад намі паўстае панарамная карціна жыцця насельнікаў заходнебеларускага краю — спачатку шляхты, потым**




**звычайных грамадзян, нашых сучаснікаў. Адбываюцца з імі розныя незвычайныя здарэнні, яны робяцца ўдзельнікамі прыгод, авантур, з імі нават здараюцца трагедыі.**

**Як лейтматыў, гучыць у кнізе слова "ўдог". Гэта сімвал лёсу ўсёй Беларусі, усяго нашага народа. Пісьменніка перапаўняе пачуццё горычы, калі ён бачыць у навакольных людзях праявы зайздрасці, эгаізму, здрадніцтва, якія ў рэшце рэшт нараджаюць нянавісць. З атрутнымі ягадамі болю, адчаю, расчаравання.**

**Створаная ў містычна-рамантычным ключы, кніга гэтая — пра ўсіх нас. Таму яна нікога не можа пакінуць абыякавым. Бо ўзыходзяць яшчэ і растуць сярод нас атрутныя парасткі, чужая кроў (у выглядзе пакут і гора) ліецца з кожнай раны, нанесенай у чулівае сэрца, — але, на вялікі жаль, мы ўсё часцей пачынаем успрымаць гэта як належнае.**

**Вось такую кнігу напісаў Франц Сіўко. Чытайце — магчыма, і ў некага з вас забаліць-зашчыміць сэрца ў адказ на нечую бяду. А тады вы адчуеце сябе чалавекам. Чалавечнасць — гэта ў першую чаргу ўменне спагадаць чужому няшчасцю...**

**С. Я.**

# АДРОДЗІМ ЛІТАРАТУРНЫ АЛЬМАНАХ!

**Сёлета ў снежні споўніцца 200 гадоў з дня нараджэння вялікага рускага паэта Фёдара Цютчава. У наш час творчая спадчына гэтага геніяльнага творцы і мысліцеля набывае асаблівае гучанне. Кожны яго верш — гэта прароцтва, адкрыццё, папярэджанне... Расійскі пісьменнік Аляксандр Баброў звяртаецца з просьбай: дапамагчы яму адрадзіць выданне альманаха "Паэзія", дзе будзе прадстаўлена сучасная паэзія. Адзін з раздзелаў альманаха запланавана прысвяціць братняй славянскай паэзіі Беларусі.**

**Да ўдзелу ў аднаўленні выдання альманаха запрашаюцца паэты незалежна ад іх ідэйных пазіцый, эстэтычнай скіраванасці і цэхавай прыналежнасці. Ініцыятары праекта просяць дасылаць свае вершы, успаміны пра братоў па пяры, эсэ, роздумы аб цютчаўскіх традыцыях у лірыцы і песні.**

**Матэрыялы трэба даслаць да 21 чэрвеня па адрасе: 129278, Масква, Рыжскі праезд 7, выдавецтва "Олімп". Тэл./факс 283-10-02.**

***Шаноўныя чытачы, сёння мы публікуем крытычны артыкул нашага аўтара з Брэста Сяргея ГРЫШКЕВІЧА. Безумоўна, ён выкліча неадназначную рэакцыю як з боку аўтара рэцэнзуемага тут зборніка, так і з боку прыхільнікаў гэтага неардынарнага паэта. Што ж, мы схільныя да этычнай палемікі адносна "набалелай" праблемы нашай літаратуры: неадрэдагаванасці большасці кніжак, выдадзеных за свой кошт або пры падтрымцы спонсараў.***

***"Лепш менш, ды лепш", — не наш лозунг. Наш: лепш больш, ды лепш... Асабліва гэта тычыцца тых, хто лічыць сябе прафесіяналам альбо яго лічаць такім. Толькі б не атрымалася так як з адной паэткай, пра чый даволі пасрэдны зборнік было больш "гаворкі, чым пра сапраўды вартыя кніжкі паэзіі...***

***Пішыце. Ухваляйце, крытыкуйце. Супрацоўнічайце. Разам мы ствараем і аберагаем мастацкае слова дзеля яго светлай будучыні.***

***Аддзел крытыкі***

# «ДЗЕ ПРЫНЦ ТВОЙ, МІЛАЯ МАРЫЯ?»

Берасцейскі паэт Васіль Дэбіш, член Саюза беларускіх пісьменнікаў з дзесяцігадовым стажам, пры сустрэчы нязменна любіць пахваліцца сваім досведам у вершаскладанні. Маўляў, не ведаю, як іншым, а мне мая паэзія падабаецца, пісаць я ўмею. А паколькі спрачацца з паэтамі — марнаванне часу, то я верыў В. Дэбішу, як кажуць, на слова. Тым больш у абласной прэсе траплялія і сапраўды вартыя вершы.

І вось летась у Брэсце выйшла кніжка В. Дэбіша, дзякуючы падтрымцы арганізацыі, у якой працуе аўтар. Пад інтрыгуючай назвай "Каханне з чыстымі вачыма" хаваюцца вершы, казкі, пераклады. Адметна, што кніга не мае рэдактара. А ён бы тут не зашкодзіў...

Пагаворым пра вершы...

У зборніку яны складаюць першыя два раздзелы: "На ўзлёце" і "Каханне з чыстымі вачыма". Кожны з іх адметны сваёй тэматыкай, вобразнымі сродкамі, інтанацыйным гучаннем.

Сэнс назвы раздзела "На ўзлёце" раскрываецца ў першым жа вершы: "Акно адчынена. Свабодны, // Ляці... насуперак, наўзлом". Куды сабраўся ляцець В. Дэбіш, я не ведаю, але відавочная яго непазбежна-хуткая сустрэча з газонам ці асфальтам...

Вобразы, якімі карыстаецца аўтар, таксама ўражваюць сваёй "інтэлектуальнасцю": "На нябёсах непрытомных поўня — // Як віно чырвонае самотны...". Параўноўваць сябе з віном — гэта занадта. Нават у кашмарным сне такі чалавечышча не прысніцца... А тут яшчэ "бы мерцвякі, застылі грушы". Трупы стаяць не ўмеюць...

Цяжкавата В. Дэбіш разбіраецца і ў міфалогіі. Паводле аўтара, русалкі жывуць... у студні:

*Дзесь там, на недасяжнай глыбіні,*
*Куды не далятаў бліск промняў палкіх,*
*Жыў дзед стары — кудлаты Вадзянік —*
*З дачкой сваёю — гожаю русалкай.*

Паколькі аўтар безвылазна пражыў сорак з гакам гадоў у Беларусі, дзіўна чытаць і наступнае: "Нікнуць долу дрэвы. Дрэмле рэчка. // Выплываюць туманы з-за гор". Я, напрыклад, прачытаўшы такое, адразу ўявіў побач з Брэстам заснежаныя вяршыні Эверэста, Фудзіямы, Паміра... І над усім гэтым "плыве па небе фурман нелюдзімы" — зусім як Санта Клаус на санях.

У вершы "Снежная ноч" В. Дэбіш піша: "Снег ідзе ўсё, ідзе. Я люблю снегапад. // Зацярушаны снегам дарога і сад". Калі так доўга ідзе снег, то, па-мойму, дарога і сад будуць проста завалены ім, а не злёгку прыцярушаны...

У вершы "Горад" апісваецца парк, дзе "хлопцы п'яныя гарэлку п'юць". Ці можна гэта рабіць, застаючыся цвярозым, варта спытаць у В. Дэбіша.

Вось яшчэ радкі: "Дождж, дождж... Прамок мой парасон. // А я стаю, куды ісці не знаю". Па-першае, парасоны не прамакаюць. Па-другое, у такое надвор'е трэба сядзець дома.

В. Дэбіш вельмі часта выстаўляе сябе пакутнікам: "Абвінілі мяне, абылгалі. Не спыталі, што сёння я еў". Мне, напрыклад, гэта нецікава. І далей ужо больш зразумела: "А я іх карміў і паіў". За такую няўдзячнасць В. Дэбіш можа і пабіць, бо "няпраўды не церпіць".

Часам я задаю сабе пытанне: а дзе працуе лірычны герой В. Дэбіша? Бо ў адным вершы ён піша: "Раніца. Трэба ісці на работу". А ў другім: "Пад ранак вярнуўся з работы..."

Няма нічога дзіўнага ў тым, што ў многіх паэтаў існуюць, так бы мовіць, перапевы з творчасцю класікаў. Але толькі перапевы, а не амаль літаральнае падрабленне.

*Ой, змайструю дудачку,*
*Ціхенька зайграю,*
*Паляціць мелодыя*
*Ды над родным краем.*

Хто гэта? Багушэвіч? Не — В. Дэбіш!

Але самым арыгінальна-вясёлым раздзелам зборніка стаў другі, які і даў назву ўсёй кнізе. Канцэпцыя кахання, паводле аўтара, правакуе на правядзенне псіхалагічнай экспертызы апошняга. Свае мары, нерэалізаваныя фантазіі В. Дэбіш паказаў у антаганістычным ракурсе: паэт адначасова і апашляе каханне, і ўзвышае яго — пагражае жанчынам і лашчыцца да іх. Паспрабуй зразумець, што таму В. Дэбішу трэба!

Так, абдымаючы любую, лірычны герой просіць яе... "не лаяць". Хаця далей аўтар удакладняе: "Ты губы сціснула і бровы // Нахмурыла. Ракой цячэ // Злосць з гэтых добранькіх вачэй". Такая і сапраўды можа аблаяць...

Таму, відаць, і баіцца лірычны герой вельмі блізка падыходзіць да жанчын, якіх вымушаны кахаць... на адлегласці:

*Я яе вачыма паланяю:*
*Цалаваць і песціць... Асцярожна*
*Кроплямі расы вада сцякае*
*З вытанчоных рук яе і ножак.*

*Крыўдна мне за ўласнае здранцвенне.*
*Падысці б...*

І тут жа зазначае: "Мая каханая, ісці няма куды". Паверце, шаноўны Васіль Дэбіш, свет вялікі — ісці можна куды заўгодна.. Зайшлі ж вы ў адным вершы "на філіжанку чаю і келіх смачнага віна": "Перада мной ты, маладая // І светлая, нібы вясна. (...) І той жа просценькі халацік // Акрэсліў вабнасці твае...".

Але не ўсё так проста: "Ах, каб ведала ты, як начамі сумуецца без // Тваіх вуснаў, вачэй, і смяшынак, і пальцаў пяшчотных". І зусім побач: "Звіхнуцца можна. Твае рукі, плечы — // Паўсюдна тут. І выпіта віно. // І збег бы. Ды куды? Вакол цямрэча".

Такое дзіцячае "хачу-не хачу" паўтараецца безліч разоў: "Ты не прыходзіш. Можа, я не значу // Нічога для цябе? Ужо трэці дзень // Цябе чакаю...". І нават "на дрэвах каркаюць вароны аб тым, што ўжо не прыйдзеш ты". Не прыйшла? То і я, разважае В. Дэбіш, гуляць у даганялкі з табою не буду: "Думала, што прыбягу // І на калені ўпаду, буду ўмольваць застацца. // Губы кусаць да крыві. Ды — не дачакацца. // Нават ні разу не гляну ў твой бок. Я змагу. // Думала, буду прасіць прабачэння. Ідзі. (...) думала, што ты на свеце адна вось такая // Дзёрзкая. Знікні, адстань, адступіся".

Некаторыя радкі гучаць занадта арыгінальна: "Люблю цябе. Люблю, калі маўчыш..."; "Шызым мроівам высіцца стог: // Ты за ім, па-над ім, ты далёка..."; "А дождж дыміцца (?) і злуецца"...

Цэнтральным, скразным вобразам у другім раздзеле кнігі з'яўляецца, безумоўна, ложак, ён сведка непрымірымай барацьбы закаханых:

*Калі з табой кіруемся да ложка,*
*Я цела тваё пешчу безупынна,*
*Да рук маіх ты лашчышся, як кошка.*

# ТЭКСТАЛОГІЯ — АСНОВА ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

***У лютым месяцы гэтага года грамадскасць рэспублікі шырока адзначыла 110-ю гадавіну з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма ГАРЭЦКАГА. Прайшлі XI Гарэцкія чытанні. Адбылася прэзентацыя кнігі Тэрэзы ГОЛУБ "У вытворчай майстэрні класіка".***

Выступаючы на прэзентацыі кнігі, член-карэспандэнт НАН Беларусі М.Мушынскі сказаў: "Манаграфія Т.Голуб — значная падзея ў беларускім літаратуразнаўстве. Яна цалкам адпавядае тым задачам, што сёння стаяць перад даследчыкамі, якія закліканы напоўніць рэальным зместам паняцці "класік нацыянальнай літаратуры". Даследчыца здолела ўзняцца да шырокіх тэарэтычных абагульненняў і прапанавала ўласную, глыбока распрацаваную канцэпцыю маючага быць Поўнага збору твораў пісьменніка.

Прыхільна паставіўся да прапанаванай канцэпцыі Поўнага збору твораў і першы рэцэнзент кнігі Т.Голуб, вядомы даследчык творчасці М.Гарэцкага М.Ількевіч (час. "Годы", 2002, № 4. Смаленск). Праўда, у яго выклікала сумненне правамернасць уключэння ў новае выданне перакладаў М.Гарэцкага з рускай мовы: "... апублікаванне ў Поўным зборы твораў пісьменніка твораў рускіх літаратараў, хай і ў перакладзе на беларускую мову, будзе заўсёды ўспрымацца няпэўным, другарадным, надуманым і нават цяжка вытлумачальным". З такім меркаваннем нельга пагадзіцца, калі разглядаць перакладчыцкую дзейнасць і яе вынікі як неад'емную частку мастацкай спадчыны.

Далейшага абмеркавання патрабуе ўзнятае Т.Голуб пытанне наконт магчымага адступлення ад жанрава-храналагічнага прынцыпу ў кампазіцыйнай пабудове. Дадзеная праблема ўжо дыскутавалася ў беларускім літаратуразнаўстве. Абмяркоўваючы праспект Поўнага збору твораў Я.Купалы ў 9 т., некаторыя даследчыкі прапанавалі адмовіцца ад жанрава-храналагічнага прынцыпу ў дачыненні да зборнікаў "Жалейка", "Гусляр", "Шляхам жыцця" і інш.

Трэба дадаць, што абраны тып выдання — Поўны збор твораў Я.Купалы — абумоўлівае пэўную кампазіцыйную пабудову. Жанрава-храналагічны прынцып, на нашу думку, сёння больш адпавядае ўзроўню сучаснай беларускай тэксталогіі. Але гэта не выключае ў будучым падрыхтоўку акадэмічных выданняў паасобных зборнікаў з падрабязным навуковым каментарыем. Гэта датычыцца зборніка "Шляхам жыцця".

У трэцім раздзеле кнігі Т.Голуб разглядаецца праблема атрыбуцыі (устанаўлення аўтарства). І гэта правамерна, бо без яе вырашэння немагчыма распачынаць ажыццяўленне Поўнага збору. Для творчасці М.Гарэцкага, які згодна даўняй літаратурнай традыцыі, у тым ліку і нацыянальнай, падпісваў свае творы псеўданімамі і крыптанімамі, вызначэнне сапраўднага аўтарства з'яўляецца адной з першачарговых задач. Выдатна валодаючы матэрыялам, Т.Голуб не толькі пацвердзіла ўжо вядомыя псеўданімы і крыптанімы М.Гарэцкага, але пераканаўча даказала прыналежнасць пісьменніку асобных публіцыстычных артыкулаў і рэцэнзій, у якіх адсутнічаў подпіс.

Чацвёрты раздзел кнігі ("Лабірынтамі творчай задумы"), як і папярэднія, арыентуе дакладчыка на актыўнае выкарыстанне разнастайных матэрыялаў пры падрыхтоўцы і каментаванні твораў у Поўным зборы М.Гарэцкага. У цэнтры ўвагі даследчыцы — "Зборнік апавяданняў", падрыхтаваны пісьменнікам да друку і датаваны 1928 годам.

Трэба адзначыць, што даследчыца падышла да вывучэння гісторыі тэксту гэтага зборніка шматбакова і праявіла выключныя здольнасці ў аналізе мастацкага тэксту, у адчуванні своеасаблівага стылю пісьменніка. На выразную адметнасць зборніка ўказаў М.Мушынскі ў працэсе падрыхтоўкі Збору твораў М.Гарэцкага ў 4 т.: "Змест" гэтага "Зборніка..." дае падставы меркаваць аб тым, што М.Гарэцкі ўкладваў у традыцыйныя паняцці іншы сэнс: пад "Зборнікам апавяданняў" ён меў на ўвазе "Збор твораў"... паколькі "Зборнік..." уключаў, па сутнасці,

*І, нібы кошка, выгінаеш спіну.*

*І ў гэтай страсці радаснай і дзікай*
*Звярынае ёсць нешта, што папоніць.*
*Раптоўна заціхаюць стогн і крыкі...*

*Як мёртвая ляжыш...*

Але не заўсёды Дэбішаў ложак укамплектаваны: "Вечар зімовы. Зачынены вокны і дзверы. // Печ распалю я і ў ложак халодны нырну". Або:

*Што за жыццё — прыгожы, малады,*
*Адзін ляжу я на парожнім ложку.*
*Спаважны, думны, смелы — хоць куды!*
*І вольны, не прыжэнены ні трошкі.*

*Паўзмрок, і вельмі холадна мне спаць,*
*І смутак на душы — як змей грымучы!*
*А мне б цяпер — цябе. І абдымаць.*
*І цалаваць, і мучыць, мучыць, мучыць...*

Вось да чаго прыводзіць доўгае, прабачце, сексуальнае ўстрыманне...

Таму нават выпадковая сустрэча з Ёю становіцца выратавальнай саломінкай у адзінока-беспрасветным жыцці героя:

*Мне пасміхнулася гулліва*
*Жанчына з рыжаю касой.*
*І знікла. Толькі што за дзіва?!*
*Я цэлы дзень бы сам не свой.*

*Хаджу па вуліцах шчаслівы*
*І вершыкі складаю той*
*Жанчыне з рыжаю касой,*
*Што мне ўсміхнулася гулліва.*

Толькі вось перапады настрою ў лірычнага героя здараюцца даволі часта. Яму хочацца, каб на яго звярталі ўвагу, любілі. Без гэтага герой адчувае сябе "нікому непатрэбным і нямілым".

Не ведаю, як шаноўны чытач, але я такія "донжуанавы" пакуты ўсур'ёз успрымаць не магу. Канечне, кожнаму мужчыну хочацца быць sex-giganto. І кожнаму прыкра, калі ён далёка не адпавядае гэтаму статусу. Але навошта выстаўляць свае псіхафізіялагічныя асаблівасці напаказ?

Па-мойму, з 76 вершаў можна было выбраць найбольш вартыя, тым больш, што яны ў зборніку ёсць.

Я свядома абмінуў увагай казкі і пераклады В. Дэбіша. Іх месца ў зборніку больш чым сціплае. І не дае дастатковых падстаў разглядаць іх гэтак жа дэталёва, як вершы.

Хочацца параіць В. Дэбішу шукаць больш разнастайныя вобразы, каб яны не паўтараліся з твора ў твор па дзесяць-дваццаць разоў. Я склаў нават слоўнік такіх часта ўжывальных адзінак: цемрадзь (цемра) цямрэча, зоры (зорачкі) зорны, холад (халодны, змрок, голы, задушыць, кроў, сляпы, зіма, дым, снег, туман, вецер / вятрыска, поўня, балота, стогн, віно, п'яны... Ужо іх пералік дазваляе чытачу меркаваць аб агульнай настраёвасці кнігі. Шкада, што не заўсёды аўтару ўдавалася паказаць каханне чыстымі вачыма...

І апошняе. Сёння многія папракаюць нашу літаратуру адсутнасцю чытача з-за яе нецікавасці, "нізкагатунковасці". Калі б мне, шараговаму чытачу, трапіўся зборнік паэзіі Васіля Дэбіша, то і сапраўды магло скласціся ўражанне аб ненармальнасці айчыннага мастацкага слова. Таму, шаноўныя пісьменнікі, пішыце такія творы, каб за іх не было сорамна.

**Сяргей ГРЫШКЕВІЧ**

---

усе важнейшыя з напісаных да таго часу празаічныя творы". Такая трактоўка назвы кнігі падштурхнула Т.Голуб да таго, каб паставіць пытанне аб рэканструяванні зборніка. У перапрацаваным выглядзе машынапісны тэкст захаваўся толькі часткова, астатнія творы, якія павінны былі ўвайсці ў кнігу, пазначаны толькі ў спісе "зместу" зборніка, складзеным М.Гарэцкім. Узнікае пытанне: ці магчыма рэканструяваць гэты "Зборнік..." паводле аўтарскай волі?

У практыцы беларускіх тэкстолагаў ужо ёсць падобны прыклад. Зборнік М.Багдановіча "Вянок" у Поўным зборы твораў быў рэканструяваны ў адпаведнасці з выказанымі пажаданнямі ў аўтарскіх лістах. У выпадку са зборнікам М.Гарэцкага, як справядліва зазначыла аўтар даследавання, адсутнасць пэўнай часткі перапрацаваных тэкстаў не дазваляе сёння ўзнавіць сапраўдны аўтарскі тэкст.

Але заслуга Т.Голуб у тым, што гэтая выснова не перашкодзіла ёй убачыць перспектыву ў далейшым вывучэнні гісторыі тэксту "Зборніка...", у працэсе якога тэкстолагі абавязкова сутыкнуцца з праблемай выбару асноўнага і кананічнага тэксту.

Першы крок у гэтым напрамку ўжо зроблены. Т.Голуб ажыццявіла на практыцы сваю прапанову далейшага вывучэння "Зборніка..." У серыі "Беларуская проза XX ст." выйшла кніга М.Гарэцкага "Прысады жыцця" (Мн.: "Мастацкая літаратура", 2003), якая складзена паводле "Зместу" машынапіснага "Зборніка апавяданняў" 1928 г., падрыхтаванага пісьменнікам.

Т. Голуб на практыцы пераканаўча даказала правамернасць і значэнне тэзіса Д.Ліхачова аб тым, што "тэксталагічнае даследаванне — гэта фундамент, на якім будуецца ўся далейшая літаратуразнаўчая работа".

**Эма ЗОЛАВА**

---

НАЎЗБОЧ

***Сутнасць жыцця — шматзначная, праўды — таксама. Можа таму, чытаючы творы вядомага пісьменніка Уладзіміра АРЛОВА, нельга не адчуваць сябе сааўтарам сярмяжнай прозы нашага сённяшняга жыцця, дзе да спрадвечнага беларускага Духу стаў прымешвацца душок нядобрасумленнага часу. Аднак чалавек моцная істота, ён перажывае-пераадольвае ўсе пакуты і перашкоды, каб у рэшце рэшт быць узнагароджаным пашанотнай сівізною жыццёвай мудрасці...***




# АРЛОЎ І МЯДЗВЕДЗІ

Сам жа Уладзімір Арлоў у сувязі з наступаючым юбілеем быў ушанаваны дзяржаўным выдавецтвам "Мастацкая літаратура" "Ордэнам белай мышы". Так называецца чарговая кніжка пісьменніка, ужо трэцяя па ліку за апошнія шэсць гадоў, з тых, што пабачылі свет у згаданым выдавецтве. Сёння рэдка каму так шанцуе, але ж няшмат і тых, хто так піша. Ці не з прычыны такога рэдкага па нашым часе хуткавыдання чарговая кніжка натуральна не паспела стаць новай адносна выдрукаваных у ёй твораў. Апроч аповеда, што даў назву самой кніжцы, не ўключаўся ў папярэднія зборнікі пісьменніка яшчэ толькі адзін — "Маша і мядзведзі". Астатнія друкаваліся ў яго папярэдніх кніжках. (Дарэчы, задзёр з "рускімі мядзведзямі" для аўтара не першына. Было ўсякае, але, дзякаваць Богу, — пакуль цэлы...)

Чытач, які звык да гістарычных алюзій у літаратурных тэкстах Уладзіміра Арлова, гэтым разам можа асабліва не напружваць глузды, а спакойна адпачыць душой і целам, калі не будзе занадта апанаваны пошукамі ісціны ў недалёка прыхаваных падтэкстах. Ведаючы пісьменніка як арыгінальнага стыліста ды неабыякавага і схільнага да фарматворчасці аўтара, агулам можна канстатаваць, што на паліцах беларускіх кнігарняў з'явілася нешта блізкае да айчыннага займальнага і лёгкачытэльнага бестселера...

Але як на мой кансерватыўны густ, то найбольш удалым у мастацкім плане творам у кніжцы з'яўляецца аповесць "Краявід з ментолавым пахам", дзе аўтару ўдалося выявіць свайго героя ва ўсёй фізічнай і разумовай красе... Магчыма, гэта яго ўпотай змысленае alter ego... Іронія, жарт, досціп, каламбур ды інтэлектуальная вытанчанасць — вось што тоіцца за метафарычнымі тропамі твораў Уладзіміра Арлова. Вядома, візуальная лёгкасць падобных пісьмовых карункаў вырабляецца ў штольні штоночнай катаржнай адзіноты. Але то ўжо не наш чытацкі клопат.

Мяне, праўда, трохі трывожыць тая відочная кантрастнасць у творчасці пісьменніка, калі ён адной рукой адраджае і *ўзвышае* слынную гісторыю свайго народа, а другой няшчадна і беспардонна-парадыйна *прапісвае* яго ж нядаўнюю і сённяшнюю суверэнную рэчаіснасць. Ці не будуць некалі гэтак жа *ўхваляць* наш (прамінулы для іх) час і нашчадкі нашых нашчадкаў, Арлова-гісторыка, не зважаючы на напісанае Арловым-белетрыстам?.. Ёсць пра што падумаць, хоць, разумею, тут шмат неадназначных нюансаў... Але — гэта маё суб'ектыўна-прыватнае пытанне да аўтара... Мажліва, неабавязковае.

А што тычыцца гэтай канкрэтнай кніжкі, то — пытайцеся, купляйце, чытайце, любіце, зайздросціце...

Кожнаму — сваё.

Як, да прыкладу, кніжным героям Уладзіміра Арлова — пісьменніку і каралю — з аповеду "Ордэн белай мышы".

*— Мае кнігі ўжо шмат гадоў не выходзілі, — адказаў пісьменнік, узняўшы келіх і па чарзе глянуўшы на манарха і жанчыну.*

*На языку ў караля, напэўна, круцілася пытанне, з якога часу пісьменнікавы рукапісы больш не ператвараюцца ў кнігі, але яго вялікасць быў надзелены дзяржаўнай мудрасцю, і таму ягоны суразмоўца пачуў іншыя словы:*

*— Але ты ўсё адно пісьменнік.*

*— Магчыма, — адказаў пісьменнік. — Бо я па-ранейшаму пішу. Пішу ў стол...*

*— Тым больш, — задаволена падхапіў кароль. — Так і павінен жыць сапраўдны пісьменнік."*

На тым і пакінем іх tet-a-tet, закрыўшы гожа выдадзеную кніжку пісьменніка, хіба толькі суха і фармальна адзначыўшы напрыканцы, што на тыльнай вокладцы яе, апроч фота Уладзіміра Арлова, пералічаныя яго асноўныя біяграфічныя даты, а таксама яго дзяржаўныя і літаратурныя ўзнагароды. Чамусьці не ўсе. Зрэшты, беларускія пісьменнікі заўжды былі занадта сціплымі... Менталітэт, халера яго бяры.

А сама кніжка — вартая. Прыемнага ўсім чытання.

**ЛеГал**

---

НАВІНА

***Кожным разам, калі мне ў рукі трапляе кніга па беларускай гісторыі, я міжволі параўноўваю яе з тымі, па якіх вучыўся ў школе і інстытуце, якія ў савецкі час — у гады майго юнацтва і маладосці, лічыліся ісцінаю ў апошняй інстанцыі.***

# КРАІНА БЕЛАРУСЬ

Усумніцца ў праўдзівасці іх было гэтак жа небяспечна, як у асяродку рэлігійных артадоксаў сказаць, што атэісты — таксама людзі.Тысячагадовая гісторыя нашай дзяржаўнасці цалкам адмаўлялася. Беларуская мінуўшчына ў кароткім пераказе выглядала так: Беларусь, "правінцыю" Кіеўскай Русі, напачатку заваёўваюць літоўскія феадалы, потым яна трапляе пад прыгнёт Польшчы, потым "уз'ядноўваецца" з Расіяй; беларуская дзяржаўнасць пачынаецца з БССР, за што беларусы мусяць быць удзячны бальшавікам і іхняму правадыру. Усё, што пярэчыла гэтай канцэпцыі, папросту не ўзгадвалася.

Але ж і альтэрнатыўная думка знаходзіла шлях да свядомасці тых, чый інтэлект быў падрыхтаваны да яе ўспрымання. Нагадаю навуковы подзвіг Міколы Ермаловіча, які фактычна знішчыў падмурак не нашай канцэпцыі нашай гісторыі, выбіў з-пад яе "краевугольны камень". Уважліва прачытаўшы першакрыніцы, ён пераканаўча давёў, што ніякага "літоўскага нападу", ніякага "заваявання Беларусі Літвою" не было і быць не магло, бо "Літва" — гэта назва Беларусі ў часы Сярэднявечча. А калі так, дык трэба перагледзець пытанне аб "нацыянальнасці" Вялікага Княства Літоўскага. За часы Незалежнасці канцэпцыя Ермаловіча была цалкам успрынята нацыянальнай элітай і нават адзначана Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь.

Але, на жаль, і сёння шмат беларусаў, асабліва старэйшага пакалення, успрымаюць гісторыю сваёй краіны з чужога розуму, у імперскай трактоўцы. Таму новая кніга Уладзіміра Арлова "Краіна Беларусь" патрэбная не толькі дзецям, якія толькі пачынаюць асэнсоўваць месца і ролю іхняй краіны ў сучасным свеце і ў сусветнай гісторыі, але і дарослым, што большую частку жыцця пражылі у БССР (СССР), і якім, адпаведна, трэба выпраўляць хібы выхавання і адукацыі.

Гэта кніга доўжыць шэраг, у якім "100 пытанняў і адказаў з беларускай гісторыі", "Адкуль наш род", "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі", "150 пытанняў і адказаў з беларускай гісторыі" — творы, на якіх выхоўваецца пакаленне Незалежнасці.

Уладзімір Арлоў — аўтар тэксту. Але ў гэтым выданні, мабыць, не меншую ролю мае ілюстрацыйны матэрыял. Слова, падмацаванае візуальным вобразам, звычайна гучыць больш важка (за выключэннем тых выпадкаў, калі кепскія ілюстрацыі перашкаджаюць упрымаць добры тэкст). Ды і "сярэдні" чытач (а выданне разлічана найперш на гэтую катэгорыю, бо дасведчаных пераконваць не трэба), аддае перавагу кнізе "з карцінкамі" перад кнігай, якая іх не мае.

Само вызначэнне кнігі "Краіна Беларусь" як "ілюстраваная гісторыя" патрабавала ад аўтара сур'ёзнага супрацоўніцтва з мастаком-дызайнерам. Макет і падбор ілюстрацый рабіў Зміцер Герасімовіч. Я збольшага знаёмы з ягонымі працамі. Мяркую, гэтая — лепшая з таго, што ён зрабіў на сённяшні дзень.

Хоць камп'ютэр дае дызайнеру кнігі неабмежаваныя магчымасці, сапраўдны прафесійнік мусіць мець густ і пачуццё меры, каб свядома абмежаваць сябе ў выразных сродках дзеля выяўлення ідэі, зададзенай аўтарам тэксту. Зміцер Герасімовіч такімі якасцямі валодае. Хтосьці скажа, што макет кнігі — кансерватыўны, я ж скажу: вобраз кнігі ў добрым сэнсе акадэмічны. Гісторыя ў нас сур'ёзная, як і вобраз яе ў гэтым выданні. Прыблізна такім я ўяўляю сабе грунтоўны каталог экспазіцыі Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі.

Кніга пачынаецца аповедам пра час, калі на нашай зямлі яшчэ не з'явіўся чалавек, калі толькі фармаваліся яе ландшафт і клімат. Потым апавядаецца пра першых жыхароў, іх побыт, рэлігію і мастацтва; пра этнічныя працэсы, што адбываліся тут на досвітку Сярэднявечча; пра пачатак дзяржаўнасці (Полацкае княства), пра Хрысціянізацыю, пра росквіт беларускай дзяржаўнасці (Вялікае Княства Літоўскае), яе заняпад, страту і адраджэнне. Ад дагістарычных часоў мосціцца дарога ў XX стагоддзе. Апошні артыкул кнігі — "Беларуская Народная Рэспубліка".

Ладнага памеру выданне часам называюць "цаглінаю". Гэтую праўдзівую кнігу я назваў бы "цаглінаю для Беларускага дома" (яна не з тых, якія падыходзяць толькі для таго, каб шпурнуць у акно суседу).

Пераказваць змест асобных артыкулаў няма патрэбы. Уладзімір Арлоў вядомы чытачу і як гісторык і як пісьменнік. Той, хто чытаў ягоныя творы, лёгка зможа ўявіць сабе змест і стыль новай кнігі Арлова "Краіна Беларусь". Адзначу толькі, што тон тэксту ўзважаны і з гэтай прычыны пераканаўчы. Усе высновы грунтуюцца не на міфах (як даволі часта бывае ў нашых суседзяў, калі гаворка ідзе пра "спрэчныя" моманты гісторыі, датычныя іх і нас), а на фактах. Перад чытачом паўстае эпапея гістарычнага шляху еўрапейскага народа, які зрабіў немалы ўнёсак у сусветную цывілізацыю, здолеў насуперак неспрыяльнаму лёсу адрадзіць сваю дзяржаву, які і сёння валодае дастатковым патэнцыялам, каб заняць годнае месца ў дэмакратычнай еўрапейскай супольнасці.




Гэтай кнізе наканавана быць неаднойчы перавыдадзенай. Магчыма, аўтары, якія зараз спыніліся на 1918 годзе, працягнуць вандроўку ў часе і дойдуць да сённяшняга дня. Можа, штосьці дададуць пры перакладах на замежныя мовы. Але, галоўнае, кніга ўжо ёсць як факт. Літаратурны, гістарычны, палітычны.

Асабіста я шкадую пра тое, што такой кнігі не было ў мяне ў дзяцінстве. З ёю мой уласны шлях да Беларусі быў бы куды як карацейшы. Не толькі ў мяне, а шмат у каго з майго пакалення. Але ж гісторыю не прыспешыш. Зрэшты, часу хапае. Калі ў нацыі тысяча год за плячыма, значыць, і наперадзе не менш.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# ДУМАЦЬ ПРА ВЕЧНАЕ

Цалкам і поўнасцю згаджаюся з тымі творцамі (як, напрыклад, з паэтэсай Т. Будовіч), што лічаць, быццам Бог калісьці абавязкова запытае ў кожнага: "Што ты зрабіў са сваім талентам?"

Кніга паэзіі М. Дуксы, выдадзеная сёлета ў выдавецтве "Про Хрысто" пад рэдакцыяй К. Лялько, прыадкрывае перад намі "дзверы" ў патаемнае, схаванае ад людскога вока... Вышэйшы, Боскі свет паўстае са старонак кніжкі, названай адпаведным чынам: "Прыйсці да алтара". Нягледзячы на тое, што гэты зборнік вершаў, здавалася б, мае чыста практычнае прызначэнне — заклікаць вернікаў, найперш каталікоў, часцей звяртацца да святыняў — присутнічае ў ім нешта эстэтычна каштоўнае. Яно, гэтае "нешта", і робіць лепшыя творы гэтай кніжкі ўзорам мастацтва.

Разняволеная чалавечая душа, якая імкнецца ў вышыню, да ідэалаў, што дапамагаюць ёй захоўваць сваю несмяротнасць, — дабра, міласэрнасці, любові, — вось аб'ект мастацкага адлюстравання М. Дуксы. Спасцiжэнне Бога і спроба зразумець Ягоную волю ўяўляюць галоўную філасофскую праблему зборніка. Запамінаюцца назвы вершаў паэта, уключаных у кнігу, — "Адна дарога, і яна — да Бога", "Памяці айца Уладзіслава Чарняўскага", "Святыя Пётра і Андрэй", "Ад касцельнай брамы да нябеснай", "Арханёльская труба"... Можа, у іншага аўтара некаторыя тэксты выглядалі б кан'юнктурна і гучалі б фальшыва, але калі ўсё пішацца ад шчырага сэрца, эстэтычна прыгожа і на тваёй роднай мове, то чытаеш тое і ўспрымаеш з цікавасцю, асабліва радкі, дзе пра любоў да Бога, у прыватнасці, сказана наступнае:

*Выйсці са змроку й балота на груд*
*цяжка, як вынырнуць*
*з цёмнага лесу.*
*Гібельны*
*ноч вынаходзіць маршрут —*
*ззянне ж Тваё выратоўвае, Езу.*

І не толькі пра Боскае гэтая паэтычная кніжка. Вершы іншага зместу ў ёй таксама займаюць значнае месца. Але яны арганічна "ўпісваюцца" ў рэлігійную плынь, не парушаючы ідэйна-стылявога адзінства зборніка. Празмерная павучальнасць і дыдактыка — можа, толькі ў гэтым можна было б папракнуць аўтара, М. Дуксу. Між тым ва ўсіх творах назіраецца пэўная агульнасць, бачыцца нейкае падабенства. Выяўляецца тое не толькі і не столькі ў стылі, але і ў індывідуальна-аўтарскай манеры мыслення паэта.

Маральна-этычны пошук чалавека пад небам ёсць аснова зборніка:

*Ты на радок ніжы сваю трывогу,*
*смакуючы*
*уцехі мройны яблык.*
*Што робіш ты?*
*Аддана служыш Богу*
*ці патураеш,*
*чарнакніжнік, д'яблу?*

Часам падаецца, што ў зборніку "Прыйсці да алтара" празмернасць велічнага і ўзвышанага прытупляе іншыя чалавечыя пачуцці. Як у манастыры — тым, хто там жыве, надзвычай добра, і яны па-свойму шчаслівыя. А тым, хто знаходзіцца па другі бок, здаецца, што манахі жывуць ледзь не ў астрозе. Але ж той высокі таямнічы "астрог" міжволі прыцягвае да сябе ўсё "мірское" і грахоўнае, каб узвысіць і абнадзеіць стомленага жыццём зямнога чалавека.

*Дапяты крыўдай і журбой,*
*не бачыш у вячэрняй цішы:*
*анёл схіліўся над табой*
*і цяжкі смутак твой калыша.*

С. К.

ПАЭЗІЯ

Кастусь ЖУК



## У ДОМЕ ТЫМ

*Згублю сябе ў вершах.*
*Знайду — у пражытых гадах.*
*Пенаты давершаць*
*Імшком паўразбураны дах.*

*На вільчык паціху*
*Усцягнуць яны барану.*
*І бусел з буслiхай*
*Мне ў маі падораць вясну.*

*Жыццё заклякочa*
*Над домам збуцвелым, старым.*
*І кожны захоча*
*Быць госцем у доме маім.*

## ЛЁС

*Такі ўжо мне выпаў лёс:*
*І чорны, і белы — дваякі.*
*Задумаўся цар нябёс,*
*Тасуючы зор задыякі.*

*Раскладвае пакрысе*
*Ўсе карты:*
*"На што ты варты?*
*Што ў думкі спакой нясе,*
*А што — неспакой упарты?"*

*Няўцешная карта мая,*
*Ды іншай — і не ўяўляю:*
*Прадвызначыў задыяк*
*Планіду то з пекла, то з раю.*

*Знявольніка карма? Лухта!*
*Расплюшчыце сонныя вочы!..*
*Я лёс свой прадам за пятак.*
*Купіць з вас хто толькі захоча?*

•

*Як птах-падранак я, але*
*Дужэюць крылы:*
*На кожным стомленым крыле —*
*Па небасхілу.*

*Не рву з разлёту вышыню,*
*Я ёю — мрою.*
*Пегаса ж толькі даганю —*
*Ён за спіною.*

*Лячу з зімы я праз вясну*
*Адразу ў лета.*
*І аб'яўляе сну вайну*
*Душы камета.*

## ВЯРТАННЕ ДА ВЫСНОЎ

*Белай Вежай*
*глядзішся мне ў вочы ты,*
*Белая Русь,*
*Белавежскаю пушчай*
*і белай буслінай сям'ёю,*
*Аблачынкаю белай,*
*падобнай на белы абрус,*
*І садоў белакветам*
*маёваю белай парою;*
*Густалістым падбелам*
*ля белай пясчанай касы,*
*і акацыяй белай,*
*і белай агаткай,*
*і бэзам,*
*І буйнымі крышталямі*
*ранішняй белай расы,*
*І густых туманоў*
*белым сном*
*над прынёманскім лесам;*
*Мамы, белай ад часу,*
*як галечны мел,*
*галавой,*
*Белым кужалем лёну*
*на белай хусцінцы каханай,*
*Белай грывай каня,*
*старажытнаю белай царквой*
*І пад белаю поўняй*
*лябёдкаю белай рахманай;*
*Белым снегам —*
*мукой-пытляванкай*
*князёўны зімы,*
*Белым зімнікам —*
*белаю ў полі дарогай...*
*І вяртаюся я да высноў,*
*што спаганілі мы,*
*Да святыняў сваіх,*
*да свайго Белабога.*

## ПЕРАД ДАЖДЖОМ

*Адпачывае дзень ад радоўкі.*
*Прысмерк начны.*
*Лета на крылах божай кароўкі*
*Сніць свае сны.*

*Падперазаўся паскам маланкі*
*Маладзічок*
*І, як запраўскі кум пасля п'янкі,*
*Лёг на бачок.*

*Вусы аўсоў зашыпелі вужамі,*
*Ўздрыгнуў паром.*
*Мулкая ціша громам пужае*
*Перад дажджом.*

## ЗАСПАНЫ СКВЕР

*Праз пяць хвілін*
*Ці пяць вякоў*
*Я змог праспацца?*
*Цалую пяць маладзікоў —*
*Твае пяць пальцаў.*

*Расквеціў неба парасон*
*Вуаль аблокаў.*
*І сон — далёка ўжо не сон.*
*І ноч далёка.*

*Адам і Ева... Галышом...*
*"О, райскі скверык!"*
*Ды, як па сэрцы ледзяшом:*
*"Я ў рай — не веру!"*

## КАРАЛЕВА

*Мая каралева —*
*залева,*
*А гром —*
*мной прызнаны кароль.*
*Маланак разгалістых дрэва —*
*З залевай мой вечны пароль.*

*Я п'ю дажджавыя струмені.*
*Я вецер —*
*рукамі лаўлю.*
*А суму ўсё меней і меней, —*
*Люблю шал залевы,*
*люблю!*

*Я сам з ёй —*
*нібы каралевіч.*
*Я сам з ёй —*
*маланак працяг.*
*На вогнеразгалістым дрэве —*
*Трапеча душы маёй сцяг.*

•

*Сёння ў рэчкі цудоўны настрой –*
*Жабы ладзяць канцэрт у затоцы.*
*Слых на музыку й ты настрой*
*І паддайся наплыву эмоцый.*

*Прагартай тыя дні ў душы,*
*Калі рэчка на хвалях люляла,*
*Калі жабрамі сом варушыў,*
*Аж ля стромы куга шапатала.*

*Прыгадай прахалоду віроў,*
*Што кружылі цябе*
*ў рытме вальса.*
*І спагаду надрэчных вятроў.*
*І цыкадаў буру авацый.*

*Шал эмоцый падвой,*
*патрой —*
*Патрымайся хвалям за грывы...*
*Сёння ў рэчкі*
*цудоўны настрой,*
*Значыць, сёння і ты —*
*шчаслівы.*

З ПОШТЫ

Аляксей ЧУБАТ

## ХРЫЗАНТЭМЫ Ў ДАЖДЖЫ

*Я іх нёс пад гару —*
*Пазнаёміцца — справа няхітрая —*
*І далонь, нібы дах, над бутонамі.*

*Затрымайце, — прашу*
*Двух архангелаў*
*з царства Дзімітрыя,*
*Заблудзіце тумана сутоннямі.*

*Кальцавая будоўля-пятля*
*За спіной; паглядзіце ўздоўж —*
*Гэта ён, хрызантэмы,*
*Знаёмцеся, дождж.*

## ВЕРУЮЧЫЯ ДЗВЕРЫ

*Іх шукаеце Вы*
*У касцёле, царкве*
*На могілках лясных*
*З нябачнымі словамі.*

*Выйсце ў лепшы свет —*
*Пра яго я чуў*
*Ад людскога гора*
*І слёз плецакоў.*

*Для некага дзверы — вокны,*
*Для некага — Windows,*
*А я знайшоў сваё выйсце*
*Ў лістоце кляновай.*

*Як так, — спытаеце Вы, —*
*Не пытайцеся,*
*Дачакайцеся восені.*

Ганна ВЯЗІЦКАЯ

•

*Уваскрэсну сёння я нанова*
*У цішы сівога гарадка,*
*Бо табою сказаныя словы*
*Зберагла душа майго радка.*

*На жыццёвай стромкай пуцявіне,*
*Што нібыта нітачка між траў,*
*Ты мяне ад холаду і стыні*
*Цеплынёй надзеі ратаваў.*

*Ад вытокаў я дайшла да вусця,*
*Узгадаўшы ў росчырку святла,*
*Што шукала шчасця, і чамусьці*
*Я не там шукала, дзе знайшла.*
*Што цераз агонь і праз сутонне*
*Неслася вязьмо маіх шляхоў.*
*Толькі гэта ўсё не важна сёння.*
*Паглядзі — між зорных берагоў*
*Тоненькай шчасліваю падковай*
*Веташок няўрымслівы дрыжыць...*
*Сёння я твае чытаю словы*
*І яны дапамагаюць жыць.*

•

*Месяца старэнькая газоўка*
*Шчыра і даверліва блішчыць.*
*Спіць мая маленькая Паштоўка,*
*І рака над ёю ціха спіць.*

*Замільгалі у сутонні цені,*
*І прыбраўся горад у агні,*
*І дастаць не могуць летуценні*
*Грацыёзных храмаў вышыні.*

*Чысты снег спакойна засцілае*
*Залатыя нітачкі дарог.*
*І здаецца мне, што пазірае*
*На мястэчка стоечае Бог.*

*Задрамалі недзе валатоўкі,*
*І застыла вечнасць ля вады —*
*Тоненькаю стужачкай Паштоўкі*
*звязвае з Радзімай назаўжды.*

ПРОЗА

Андрэй ПАЎЛУХІН

# КОІ-НАБОРЫ

## 1

Дырыжабль адбываў з Кіёта а гадзіне Малпы. Болей дакладна — у чатыры дня. Еўрапейскі час тут не прыжываўся... Увогуле, Японія — дзівосная краіна, думаў я, седзячы на тахце ў нумары таннага гатэля — такія звычайна завуць прыпартовымі. Вечарэла. Пад столлю свяціўся папяровы ліхтар-гіфу. У пакоі, акрамя тахты, ліхтара, нізкага століка й вешалкі для вопраткі нічога не было. Гатэль, відавочна, перарабілі з традыцыйнага публічнага дома — з падлогі шчэ не прыняплі цыноўкі, на якіх тут спяць. Знешняя сцяна — сёдзі — рассунута. Я гляджу на цёмнае поле аэрабазы (з яе вытыркаюцца прычальныя вышкі), на стрыманы лініямі авоід дырыжабля "Гіндэнбург". Нават адсюль — уражвае.

У маёй кішэні — два білеты класа "люкс", па васемсот даляраў кожны. Дзіка, праўда? Гэтая начлежка за тры іены ў суткі і гэтыя білеты. Але не спяшайцеся рабіць высновы.

## 2

Дарэчы, перад вамі ўспаміны. Усе тэрміны даўнасці мінулі і цяпер бязглузда што-небудзь утойваць. Свет іншы: законы, краіны, людзі. Нехта памёр. Тэхналогіі той эпохі перакачавалі ў музеі. Калі надрукаваць гэтую замалёўку, шкоды ад яе не будзе.

Год 1936-ы. Японіяй уладарацъ Такугава, Германіяй — нацысты. Але гэта няважна.

Я набліжаюся да "Гіндэнбурга": дзвесце сорак пяць метраў металаканструкцый, звышмоцнай абалонкі й раскошы. Каля ста пяцідзесяці тысяч кубоў гелія. Зараз такія ўжо не лятаюць. На вертыкальным хвастаўым апярэнні чарнее свастыка, іграе, бліцам вывяргаючыся з нябёс, бравурны марш. Я чуў байку, што калі Хуга Экенер* праектаваў гэтага прыгажуна, яму катастрафічна не хапала сродкаў. Зразумела, скуль ён іх узяў... Памятаю рэкламны праспект: самы хуткасны й камфортны з паветраных гігантаў. Анiякае гандолы, каюты размешчаны ўнутры корпуса.

Ён засціць сонца. Падымаюся на базу. Тут, у вышыні гуляе вецер, што спусціўся з гор. Ля трапа мяне чакаў член экіпажа ў антыстатычным касцюме. Я быў вымушаны аддаць запалкі. Тут нельга курыць, растлумачылі мне. Толькі ў спецыяльным пакоі. Я прад'явіў білеты.

— А дзе ваш спадарожнік?

— Яго няма.

— Выбачайце. Запрашаю на борт.

Кароткі дыялог быў вымаўлены на нямецкай. Я нядрэнна валодаю мовай Шылера і Гесэ, хуч мая родная... Зрэшты, няважна.

"Гіндэнбург" рухаўся ва Франкфурт-на-Майне, нідзе не спыняючыся. Просты кантынентальны маршрут. Пераважна...

Бой паслужліва падхопліваe мой чамадан. Спяшаюся за ім — спрытны малы. Вунь і каюта. Разныя дзверы з чырвонага дрэва, пазалочаная ручка й лічба "26". Хлопчык расчыняе дзверы, заносіць мой чамадан, ставіць. Працягвае ключ.

— Дзякуй, — даю на чай.

— Калі што спатрэбіцца, гер...

— Я ведаю.

Ён знікае.

Прыгадваю від знадворку: дзесяціпавярховая вышыня, не менш. Як думаеце, здатна гэткая штука выбухнуць? Канечне. Асабліва, калі напаўняльнік — вадарод, а не гелій. Потым, у перыяд сусветнай вайны, яны падалі сотнямі, хаваючы пад абломкамі эру паветраплавання. Саступаючы хлопцам у скураных шлемах, цёплых шаліках і акулярах. І іх вінтакрылым звярам.

Каюта: два шыраччэзныя ложкі, халодная і гарачая вада, убудаваная шафа, люстра, радыё, столік. Мяккія іранскія дываны. Прасторна. Заўважаю непатрэбнае тут какэмано — вертыкальную палоску матэрыі з іерогліфам "хрызантэма". Сувенір, які застаўся ад іншага пасажыра.

## 3

У курыльным салоне адзіная запальнічка была прыкавана ланцужком да сцяны. Зацягнуўшыся, я перадаў яе нізкаросламу індывіду сярэдніх гадоў, апрануламу ў дарожны твідавы касцюм. З боку яго можна было прыняць за рэспектабельнага бюргера, які вандруе ў сваё задавальненне. Як цяпер памятаю, шызыя пасмы цыгарэтнага дыму. І лопасці, што варочаюцца ўправе выцяжкі, адназначныя рэплікі пасажыраў...

— Ідыятызм, — сказаў я, маючы на ўвазе запальніцу.

— Згодны, — ён выпусціў па чарзе тры кольцы. — Але ў іх, усё-ткі, маецца апраўданне. Бяспека. Вы прыкмецілі, персанал носіць спецвопратку, а пры ўваходзе адбіраюць запалкі і нават ліхтарыкі. Гелій, сябра. Можаце сабе ўявіць, што адбудзецца, калі пусціць іскру пад абалонку? Другі "Тытанік", містэр...

— Грын, — падказаў я.

Мы пазнаёміліся. Ён прадставіўся Дзітрыхам Шульцэ. Аўстрыец па паходжанні. З амерыканскім грамадзянствам. Вельмі гаваркі, мы хутка знайшлі агульныя тэмы для размовы.

— Дырыжаблі — транспарт будучыні, — заўважыў я.

— Пакуль рана судзіць. Вы даўно на іх лятаеце?

— Сумленна кажучы, аддаю перавагу параходам.

— Вось. А чаму?

Я паціснуў плячыма:

— Мабыць, звычка.

— Камфорт, — запярэчыў мой суразмоўца. — Параход зручней. "Гіндэнбург" можна лічыць рэдкім выключэннем.

— Затое хутчэй. І не трэба трусіцца ў цягніках і аўто.

— Ваша праўда, — згадзіўся ён. — Дарэчы. Тут, на борце, выдатны рэстаран. Я хачу есці. Не складзяце кампанію?

— Канечне.

Я зірнуў на гадзіннік: час абеду. "Гіндэнбург" ужо перасёк мора і цяпер пралятае па-над Карэяй. Савецкі Саюз, баючыся замежнае разведкі, не даваў паветраных калідораў, і наш маршрут пралягаў цераз Кітай, Манголію, Незалежную Украіну, Заходнюю Беларусь і Польшчу.

Рэстаран (аглядная галерэя) сустрэў нас прыглушанымі галасамі, звонам сталовых прыбораў і венскім вальсам. Я заўважыў ля акна дзвюх дзяўчын, падобна сясцёр, пажылую даму і маладога хлопца, па выглядзе клерка.

Селі за вольны столік — каб бачыць аблокі, што праплываюць міма. Адразу, быццам з-пад зямлі, з'явіўся афіцыянт.

— Сёння японская кухня? — спытаў Шульцэ, вывучаючы назвы страў.

Я ўзяў карту він.

— Так, містэр.

— Добра. Тады: карп, печаныя васьміногі, салёныя вантробы трэпангаў. І, бадай, мідыі на пару.

— Тое ж самае, — сказаў я. — І бардо.

— Злітуйцеся, Грын! — Шульцэ рассмяяўся. — Бардо? Значна лепей і да месца тут сакэ.

— Хай будзе сакэ, — я аддаў карту афіцыянту. Той пайшоў.

— Спадзяюся, не крыўдуеце? — запытаў Шульцэ.

— Ані, — я спрабаваў быць ветлівым, нягледзячы на тое, што ад рысавай гарэлкі мяне вароціць.

Нам прынеслі газеты — іх выдалі проста тут, у паветры, на трох мовах. Адкрываю свежы нумар "Атмасфернага весніка": свецкая хроніка, надвор'е, падзеі ў свеце... А вунь, у чорнай рамцы, нататка аб раптоўнай смерці эрцгерцага Франца Фердынанда*, спачуванні сваякам... У мяне добрая памяць: імгненна ўсплывае артыкул у "Дэйлі тэлеграф". Там ішла гаворка пра замах на жыццё Фердынанда, здаецца, гэта адбылося ў чатырнаццатым годзе, у Сараеве. Тады шмат пісалі аб супольцы "Млада Босна" і яе лідэрах. Як жа іх звалі? Гаўрыла Прынцып і Даніла Ілыч. Дурацкія імёны. Казалі, што з-за іх магла распачацца буйная завазруха, але эрцгерцаг выжыў. Я спытаў Шульцэ, ці памятае ён гэтую гісторыю. Так, памятае. Шчэ б, Фердынанд быў кумірам яго бацькоў. Дарэчы, Прынцып памёр нядаўна ў турме. Ад туберкулёзу.

Афіцыянт прынёс заказ.

Выпіваем па кубачку сакэ. Закусваем. Ведаеце, я ніколі не любіў рыбу, таму нават не крануў карпа. Печаны васьміног значна смачнейшы.

— Чым вы займаліся ў Японіі? — пацікавіўся Шульцэ.

— Я скупшчык антыкварыяту. Зараз модна ўсё ўсходняе, так што бізнес прыбытковы.

Гэта — амаль праўда. Я сапраўды набываю (зрэдку) нявінныя дробязі.

— Хацелася б убачыць.

— У мяне якраз вісіць на сцяне какэмано перыяду Кейцё. Калі жадаеце...

— Потым.

— Ён наліў сабе й мне.

— Давайце вып'ем за вяртанне. Астравы — дзіўнае й нязвыклае для еўрапейца месца.

Ён асушыў кубачак, я толькі прыгубіў. Некалькі хвілін мы моўчкі, засяроджана елі. Дзітрых Шульцэ — бесцырымонны, нахабны тып, прывыклы навязваць сваё меркаванне. Гэта я скеміў адразу. Вясёлы. Яскравы. Хутчэй за ўсё, Стралец па задыякальным гараскопе.

— Японія надта доўга знаходзілася ў ізаляцыі, — раптоўна, не да тэмы, сказаў ён. — Варылася ва ўласным соку. Гэтыя шматвекавыя, дзікія для нас традыцыі... Узяць, напрыклад, Інстытут самурайства. Іх паняцці гонару... Чужасць.

— Гэтая краіна прыцягвае многіх.

— Так, прыцягвае. І мяне, і вас. Але чым? Сваёй культурай? Сціярвятнікаў, накшталт вас, Грын — шчэ раз так. Але ці з'яўляецца культура прыярытэтам у сучасным — індустрыяльным — грамадстве? Не. Вы гэта цудоўна разумееце.



Мы выпілі зноў.

— Японія, — працягваў Шульцэ, — па шэрагу паказальнікаў апярэджвае й Штаты, й Туманны Альбіён. І гэта, заўважце, пры адсутнасці ўласных рэсурсаў. Яны разумнейшыя за нас.

— Ну, гэта вы моцна...

— Не, не моцна, — перарваў ён. — Не моцна. Глядзіце, як яны развіліся за апошнія паўстагоддзя. Эда* не пазнаць: трамваі, чыгункі, радыё, аўтамабілі... Горад ператвараецца ў мегаполіс.

Я згодна ківаў, успамінаючы мітусню Гіндзы й новенькія кварталы дзелавога цэнтра.

— Аднак, — язык Шульцэ ўжо заплятаўся. — Яны па-ранейшаму нас баяцца. Сёгун выдаў загад аб абмежаванні ўезда іншаземцаў. Чулі? Канечне, чулі, вы ж адтуль. Шчэ адзін факт: у межах горада ніводнай аэрабазы. Аб чым гэта сведчыць?

Я не адказаў.

— У іх маса новых тэхналогій. Такіх, што нам й не сніліся. Натуральна, яны трымаюць усё ў тайне.

Выпілі. Хтось змяніў пласцінку — у рэстаран уварваліся джазавыя гукі. "Добра, што не заклікі сацыял-дэмакратаў", — мільганула ў галаве.

— Возьмем інтэгральныя машыны. Ведаеце пра іх? Прыдуманы параўнальна нядаўна. Уявіце сабе пакой, начынены электронікай, лямпамі, рэле...

— Накшталт касавага апарату? — удакладніў я.

— У іх значна больш функцый. Вылічэнне, запамінанне, дыялог з карыстальнікам, нават прымітыўнае прагназаванне будучыні. Разумныя машыны... У іх закладзена перспектыва. Зараз у свеце гэткіх агрэгатаў каля тысячы. Але з цягам часу, я ўпэўнены, яны прыйдуць у кожны дом, істотна паменшацца ў памерах. І дзе, вы думаеце, выраблюцца лепшыя інтэгратары?

— У Японіі.

— Менавіта. У цэнтры Эда, на Міякабасі. Завод кансерваў на самай справе — радыёзавод, які належыць канцэрну "Хёндай". Знаходзіцца пад асабістай апекай сёгуна. Здзіўлены?

— Ніколькі.

Усміхнуўшыся, ён наліў сам сабе і, не пакрыўдзіўшыся, выпіў.

— Правільна. У гэтай краіне ўсё... рэчаіснасць.

Ён распавёў шмат. Аб тым, што распрацоўкамі японцаў зацікавіліся "Джэнерал-электрыкс" і нанялі яго, Дзітрыха Шульцэ, прафесійнага шпіёна. Выкрасці нешта. Прыбор, з дапамогай якога можна падключыць інтэгратар да тэлефоннае лініі й перадаваць інфармацыю другому аналагічнаму інтэгратару.

— Яно паскарае сігналы, — растлумачыў Шульцэ. — Вы сядзіце за клавішамі ў Нью-Джэрсі й адстукваеце паведамленне, дапусцім, у Маскву. Як? А возьмем сотні, тысячы інтэгратараў, сплеценых правадамі ў сусветную павуціну...

Натуральна, ён выкраў не самое ўстройства, а ягоныя чарцяжы. Схемы, апісанні, вынікі эксперыментаў. Яны ў тубусе, у яго кауце.

— Вузкавокія гэтак проста мяне не адпусцяць, — хмыкнуў Шульцэ. — Я ведаю, што па маім следзе ідзе самурай. Ён не супакоіцца, пакуль не заб'е мяне й не верне схемы.

— Не баіцеся? — Пытаю.

— Ужо позна. Ва Франкфурце я перасяду ў другі дырыжабль — да Казан-сіці. У Штатах мяне не знойдуць...

Змяркалася.

Я падняўся, развітаўся і пайшоў.

## 4

Яго звалі Тадзіра, сваё радавое імя ён не пажадаў выдаваць. Адзіны японец на "Гіндэнбургу", ён вылучаўся з натоўпу нават у еўрапейскай вопратцы. Някідкі шэры пінжак і штаны, бялюткая кашуля, гальштук. Добрыя італьянскія туфлі. Ён стаяў ля аглядальнага акна і сачыў за праплываючымі аблокамі.

— Сумуеце па Радзіме?

Ён нават галавы не павярнуў.

Пад намі праносілася Манголія — краіна, аб якой я не ведаў практычна нічога.

— Так.

Памаўчалі.

— Ляціце ў Франкфурт?

— Мабыць і далей.

Я кіўнуў.

— Хочаце цыгару?

Ён адказаў не адразу.

— Гаванскія?

— Іншых не кур.

Зноў — працяглая паўза.

— Прыйдзецца ісці ў салон. Дзякуй за прапанову. Пасля.

Вось так ён і размаўляў — адрывіста, неахвотна. Па-ангельску. З акцэнтам. Двудушна, па-японску, усміхаючыся, так што не зразумееш, аб чым ён думае на самай справе. Я й пішу, спрабуючы перадаць яго стыль.

— Я жыў у Эда некалькі месяцаў, — тут я пераходжу на японскую. — Наведваў вашыя музеі...

— Я родам не з Эда.

— А скуль, калі не сакрэт?

— З Осака.

— Мой сябра жыве ў Осака. Ён пастаўшчык рысу.

Я назваў імя сябра.

Тадзіра прасвятлеў.

— Вядомы, паважаны чалавек. Мой бацька сябруе з ім.

## 5

Мы сустрэліся і ў наступны дзень. У рэстаране. Заказалі вустрыц, бутэрброды з вяндлінай і віно. Тадзіра быў вясёлы, шмат гаварыў аб традыцыях свайго клана.

— Я патомны самурай. У час свята Тангано сэку перад хатамі воінаў ставяцца шасты. На іх вывешваюцца баявыя сцягі з гербамі й коі-наборы.

— Што такое коі-наборы?

— Старажытны сімвал. Ён тоесны карпу, які мужна плыве супраць цячэння. Конусападобная палоска тканіны з выявай рыбы. Чорны — бацька, сіні — маці. Тыя, што менш — дзеці. У нашай сям'і вывешвалася сем коі-наборы.

Я бачыў у нейкай газеце фотаздымак канца дзевятнаццатага стагоддзя: прысадзістыя будынкі, людзі ў кімано на шырокай пясчанай вуліцы, высокая жэрдка з калярровымі "карпамі". Яны шмат значылі для Тадзіра.

## 6

Ліў дождж.

Вертыкальныя струмені спляталіся ў заслону, што размывала контуры горада. Я ішоў ззаду іх і выдатна ўсё бачыў. Калі Шульцэ ступіў на пакрыццё платформы, перад ім вырасла хударлявая фігура Тадзіра. Бліснула лязо катаны (самурай выхапіў меч з-за крыса плашча), і Дзітрых упаў, рассечаны напалам. Здаецца, завішчалі дамы.

Я застрэліў яго, не вымаючы "кольту" з кішэні. У спіну. Нахіліўся і падняў тубус, упушчаны Шульцэ.

Тры тыдні таму мне прыйшоў чэк з Ост-Індыйскай кампаніі і зашыфраваная назва. З папярэджаннем, што ёсць канкурэнт.

Дажджлівы крывы Франкфурт груваціўся вакол мяне. А перад вачыма чамусьці застыў здымак з недарэчнымі анучамі, вывешанымі на высокай жэрдцы.

---

* *Кіраўніка фірмы Deutsche Zeppelin-Reederei, якая займалася ў пачатку XX ст. будаўніцтвам цэпелінаў.*

**Наследнік аўстрыйскага трона. Пасля яго забойства ў Сараеве (1914) пачалася першая сусветная вайна.*

**Эда — старажытная назва Токіо.*

**краіну, мастацтва, традыцыі. Захапляюцца шчыра, адкрыта. Разумеюць каштоўнасць харавой культуры.**

Дзіўна: у нас ёсць вялікія нацыянальна-культурныя каштоўнасці, таленты і творчыя магчымасці, але мы часта не заўважаем іх. Чаму? Цяжка даць дакладны адказ. Уладзімір Глушакоў выказаў сваё стаўленне да гэтай праблемы:

**— З лёгкай зайздрасцю я заўважыў, што ў краінах, якія мы наведалі, ідзе праца па выхаванні павагі да класічнай музыкі. Напрыклад, у Галандыі а другой гадзіне дня па радыё праводзіцца віктарына, у якой па гучанні некалькіх музычных фрагментаў слухачы адгадваюць пэўныя класічныя творы і ў выпадку правільнага адказу атрымліваюць нядрэнныя матэрыяльныя падарункі. Заўважце, гэту перадачу слухаюць вельмі многія ў грамадскім транспарце, дома, на працы і г.д. Традыцыя проста дзівосная: едзем у машыне,і гучыць харавая ці сімфанічная музыка! Варта адзначыць, што і дарожны рух там спакойны. Шчыра кажучы, мяне захапіла такая любоў да спадчыны, гісторыі, мастацтва. Нам варта гэтаму павучыцца. Віцэ-прэзідэнт Еўрапейскага харавога саюза неяк сказаў: "Мы ў Галандыі сутыкнуліся з тым, што людзі паступова занадта захапіліся амерыканскай поп-культурай. Не паўтарайце нашых памылак. Так цудоўна, што вы спяваеце творы беларускіх кампазітараў на роднай мове з такой шчырасцю, адданасцю, натхненнем".**

Я пацікавілася ва Уладзіміра Валер'евіча: ці бачыць ён выйсце з такога становішча?

**— У нас багатая гісторыя, цудоўныя традыцыі. Дарэчы, мы маем разнастайныя калектывы сусветнага класа. Было б не сорамна паказаць гэтыя каштоўнасці, трэба ганарыцца імі. На жаль, у нашай краіне амаль немагчыма пачуць харавую ці сімфанічную музыку на радыё ці па тэлебачанні. У асноўным усё арыентавана на шырокую публіку. Справа ў тым, што класічнае мастацтва неабходна як мага болей прапагандаваць. Гэта значыць, не апускаць яго да ўзроўню мас, а рабіць наадварот. Трэба рабіць усё магчымае, каб захаваць традыцыі. Мы стараемся не збочваць з гэтага шляху, імкнёмся развіваць і прапагандаваць нацыянальную харавую музыку, творы беларускіх кампазітараў.**

Свайго калегу падтрымлівае У. Кузьменка:

**— Так, мы выхоўваем у дзяцей любоў і павагу да Бацькаўшчыны. Здарыўся вельмі цікавы, незабыўны выпадак падчас вяртання з турнэ. Вось ужо мяжу прайшлі ў Брэсце, праехалі апошні шлагбаум. Было абвешчана: "Хлопцы, мы дома!". І раптам, нават не дамаўляючыся, яны праспявалі гімн Беларусі. Гэта было надзвычай дзівосна і нечакана!**

Варта зразумець, будучае беларускага нацыянальнага мастацтва залежыць не толькі ад спецыялістаў, ад устаноў культуры, а ад кожнага свядомага грамадзяніна і — ад дзяржаўнай палітыкі. Ці не самы час стаць на шлях культурна-духоўнага самаўдасканалення?..

**Наста ЛІТВІН**

***НА ЗДЫМКАХ: капэла хлопчыкаў і яе мастацкі кіраўнік У. ГЛУШАКОЎ***

толькі гледачы ў зале, жыццё — поўнае сюрпрызаў, — менавіта з такімі думкамі выходзіш пасля спектакля, атрымаўшы сапраўдную асалоду ад тэатральнага відовішча адэсітаў.

Дарэчы, спектакляў, прысвечаных акцёрам і ўвогуле закуліснаму тэатральнаму жыццю, на фестывалі было некалькі. Напрыклад, Купалаўскі тэатр паказаў на фэсце апошнюю сваю прэм'еру — "Я цябе не пакіну..." М. Саймана. Гэтая ціхая, лірычная пастаноўка прысвечана былым актрысам, якія вымушаны змагацца і з адзінотай, і з непаразуменнем дзяцей, і з хваробамі, а самае галоўнае — з настальгіяй па сцэне, страчанай з-за ўзросту. Тонкая, эмацыянальная ігра М. Захарэвіч (яна выступіла пастаноўшчыкам спектакля) і Н. Гайды пакідала ў гледачоў нязлоўнае адчуванне блізкасці да таго, што перажываюць героіні на сцэне.(Сапраўднае ўзрушэнне выклікае вобраз замілавальнай Шпрыцы, якую сыграла таленавітая драматычная(!) актрыса Н. Гайда.)

"Тэатр у тэатры" ўзнікае і ў спектаклі "Свяшчэнныя пачвары" Ж. Както (Гомельскі гарадскі маладзёжны эксперыментальны тэатр-студыя), які распавядае пра нялёгкі лёс састарэлай актрысы Эстэр (Г. Анчышкіна), вымушанай скарыцца з маладой палюбоўніцай мужа, нясцерпным, але цудоўным, жывым "тэатрам у жыцці". На жаль, таленавіты рэжысёр Г. Мушперт занадта захапіўся меладраматычным настроем п'есы Както, пакінуўшы нераспрацаваным фармалістычны бок спектакля, з ледзь акрэсленай кампазіцыяй у першай дзеі, калі за тэатральнымі кулісамі адкрываюцца яшчэ адны, падказваючы нам, што жыццё — тэатр...

### 3. ЭКСПЕРЫМЕНТ ВІВАТ.

Тэатральныя фестывалі — мерапрыемства шкоднае. У тым плане, што рэпертуарныя спектаклі, якія ў асноўным прывозяцца сюды тэатрамі, адрываюцца ад сваёй энергетычнай глебы — сцэны, на якой яны нараджаюцца і сталеюць. А такія "адарваныя" спектаклі заўсёды ўспрымаюцца значна горш на іншых сцэнічных пляцоўках. Сёлета, на маю думку, не пашчасціла оперы-фольк "Адвечная песня", якую цудоўна "праспявалі" артысты Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Гэты спектакль , нягледзячы на тое, што ён разыгрываецца ў тэатры, больш вялікім па памерах за РТБД, і таму акцёрам было цяжэй і спяваць, і абыгрываць прастору сцэны, выглядаў эксперыментальным творам. Напэўна, упершыню класічная паэма Я. Купалы атрымала такое арыгінальнае ўвасабленне на сцэне, калі вершаваная мова адметна сінтэзіравалася з сучаснымі музычнымі рытмамі (музыка — Ц. Каліноўскі). Адна адну змяняюць каларытныя карцінкі: "Хрэсьбіны", "На службе", "Вяселле" — беларускі Мужык (І. Сігоў) і дагэтуль вымушаны крыціцца ў жыцці, змагаючыся з няпростай Доляй. Але рэжысёр С. Кавальчык бачыць у Мужыку — Чалавека, таму яго спектакль, які быў прызнаны лепшым на фестывалі, выклікае пачуццё гонару за наш самабытны, таленавіты народ, якому проста... не шанцуе.

### 4. ЧЫРВОНЫ, БЕЛЫ, ЧОРНЫ...

Чыстыя колеры, раскіданыя крэслы, шмат тканіны— у спектаклях вядомага беларускага рэжысёра Р. Таліпава ўсё сімвалічна, усё падпарадкавана раскрыццю задумы праз форму. (На гэтым фестывалі бралі ўдзел адразу два спектаклі ў рэжысуры Р. Таліпава.) Так атрымалася, што два апошнія вечары на сцэне панавалі россып стракатых фарбаў (белай, чырвонай, чорнай, зялёнай), якія буйнымі плямамі расцякліся па касцюмах герояў, рэквізіце. Дамінанта той ці іншай фарбы ў пэўнай сцэне "Кацярыны Іванаўны" Л. Андрэева (Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Я. Коласа) падказвала гледачу стан душы галоўнай гераіні спектакля (белы – надзея на паразуменне мужа, прага чысціні; чырвоны – пакутлівыя здрады, нясцерпны боль; чорны – смутак, адзінота, вар'яцтва, смерць душы), а ў "Вечным Фаме" У. Бутрамеева (Гомельскі абласны драматычны тэатр) – указвала на пастаяннае адраджэнне пэўных гістарычных тыпаў (Фама Апіскін і яго прыхільнікі апранутыя ў шыкоўныя касцюмы зялёнага, смарагдавага колеру). Праўда, калі ў "Кацярыне Іванаўне" арыгінальная форма, сюррэалістычнае сцэнаграфічнае рашэнне добра суадносілася са зместам ( гэты спектакль пра непаразуменне людзьмі адзін аднаго, аб страшэннай бездані ў душы бязкрылага чалавека), то ў "Вечным Фаме" ўсе фармалістычныя навацыі ( сцэнічны круг, на якім "закручваецца" інтрыга, фантастычныя касцюмы на акцёрах-ліліпутах, "маленькіх людзях")бязглузда вылазілі, як пёры з падушкі, замінаючы раскрыццю галоўнай тэмы п'есы. Чаму б гэтую цудоўную гісторыю пра Фаму Апіскіна зноў пастаўленую ў гістарычным антуражы, не перанесці ў наш час, у звычайную кватэру з панам-тэлевізарам з якога балабоніць Вечны Фама? На жаль, Р. Таліпаў больш захапіўся рознакаляровым тэатральным маскарадам, чым праўдай пра людзей, якія гатовыя верыць і пакланяцца любому папулісту. Аднак новы спектакль гомельскай трупы спадабаўся журы: Р. Таліпаў атрымаў прыз за лепшую рэжысуру, хаця не горшая яго работа – "Кацярына Іванаўна" засталася з носам...

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**



**АБВЕСТКІ**

# БЕЛАРУСКАЯ ДЗЯРЖАЎНАЯ АКАДЭМІЯ МУЗЫКІ АБВЯШЧАЕ ПРЫЁМ СТУДЭНТАЎ У 2003 ГОДЗЕ



У Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі (далей — АМ) **для атрымання бясплатнай вышэйшай адукацыі** (калі яна атрымліваецца ўпершыню) прымаюцца на падставе сярэдняй, сярэдняй спец. адукацыі і на конкурснай аснове грамадзяне Рэспублікі Беларусь і беларусы, якія пражываюць за яе межамі, грамадзяне Расійскай Федэрацыі, Рэспублікі Казахстан, Кыргызскай Рэспублікі, Рэспублікі Таджыкістан, а таксама асобы, якія пастаянна пражываюць у Беларусі або маюць статус бежанца.

Абітурыенты, якія станоўча здалі ўступныя экзамены, але не прайшлі па конкурсе на планавыя месцы, грамадзяне іншых (акрамя пералічаных) дзяржаў СНД, якія станоўча здалі ўступныя экзамены, **могуць быць залічаны ў АМ па кантракце** на ўмовах поўнай кампенсацыі выдаткаў на навучанне ў межах спецыяльнасці і кірунку. Калі колькасць заяў на платнае навучанне перавышае колькасць выдзеленых месцаў, паміж абітурыентамі праводзіцца конкурс па выніках уступных экзаменаў.

**Замежныя грамадзяне** могуць быць залічаны па выніках праслухоўвання з аплатай навучання згодна асобным кантрактам (толькі на дзённую форму навучання або на стажыроўку). Для атрымання другой і наступнай вышэйшай адукацыі могуць быць залічаны асобы на ўмовах поўнай аплаты навучання (акрамя спец. "Кампазіцыя", "Спевы", "Оперна-сімфанічнае дырыжыраванне") юрыдычнымі або фізічнымі асобамі. Умовы прыёму і навучання вызначаюцца адпаведным палажэннем.

Прыём у АМ ажыццяўляецца **толькі на дзённую форму навучання** па наступных спецыяльнасцях і спецыялізацыях: Фартэпіяна, Кампазіцыя, Музыказнаўства, Музычная беларусістыка, Скрыпка, Альт, Віяланчэль, Кантрабас, Арфа, Харавое дырыжыраванне, Флейта, Габой, Кларнет, Фагот, Саксафон, Труба, Валторна, Трамбон, Туба, Ударныя інструменты, Балалайка, Домра, Цымбалы, Гітара, Баянакардэон, Оперна-сімфанічнае дырыжыраванне, Спевы, Рэжысура (музычны тэатр).

Абітурыенты здаюць наступныя экзамены: спецыяльнасць; беларуская або руская (па выбары) мова і літаратура (пісьмовы пераказ).

Экзамен па спецыяльнасці складаецца з 3-6 раздзелаў, кожны з якіх ацэньваецца асобнай адзнакай.

**На педагагічным факультэце АМ у Магілёве** прыём праводзіцца па наступных спецыяльнасцях і кірунках: Харавое дырыж., Фартэпіяна, Скрыпка, Віяланчэль, Флейта, Габой, Кларнет, Трамбон, Туба, Ударныя інстр., Баян-акардэон, Балалайка, Домра, Цымбалы, Гітара, Спевы.

**Прыём на філіялы кафедраў АМ** на базе сярэдніх спец. навучальных музычных устаноў праводзіцца па наступных спецыяльнасцях і кірунках:

**Брэсцкі муз. каледж** — Харавое дырыж., Фартэпіяна, Скрыпка, Віяланчэль, Флейта, Габой, Кларнет, Фагот, Саксафон, Труба, Валторна, Трамбон, Туба, Ударныя інстр., Баян-Акардэон, Цымбалы, Домра, Гітара;

**Віцебскае дзярж. муз. вучылішча** — Фартэпіяна, Баян-акардэон, Балалайка, Домра, Музыказнаўства;

**Гомельскі каледж мастацтваў** — Харавое дырыж., Фартэпіяна, Скрыпка, Віяланчэль, Кантрабас, Трамбон, Баянакардэон, Балалайка, Домра, Цымбалы, Гітара;

**Гродзенскае дзярж. муз. вучылішча** — Кампазіцыя, Харавое дырыж., Фартэпіяна, Скрыпка, Гітара.

Паступацць на пералічаныя філіялы кафедраў АМ маюць права асобы, якія атрымалі мэтавыя накіраванні адпаведна Брэсцкага, Віцебскага, Гомельскага і Гродзенскага абл. упраўленняў культуры і ўпраўленняў адукацыі.

**Абітурыенты прадстаўляюць у прыёмную камісію дакументы (усе — у арыгінале):**

заява ўстаноўленага ўзору на імя рэктара;

дакумент дзярж. узору аб адукацыі;

сертыфікат цэнтралізаванага тэсціравання па беларускай або рускай мове (для тых, хто ў ім удзельнічаў);

медыцынская даведка па форме 086У (абавязковае праходжанне ўсіх прышчэпак);

даведка ўрача-фаніятра (спецыяльнасці "Спевы", "Харавое дырыжыраванне");

выпіска з працоўнай кніжкі (для тых, хто працуе);

даведка службы занятасці насельніцтва (для тых, хто знаходзіцца на яе ўліку);

даведка выканкама сельскага савета, што пацвярджае пастаяннае пражыванне ў сельскіх населеных пунктах (для паступаючых на падрыхтоўчае аддзяленне спеваў);

копія пасведчання аб нараджэнні (для асоб беларускай нацыянальнасці, якія з'яўляюцца грамадзянамі замежных дзяржаў і пражываюць на іх тэрыторыі);

мэтавае накіраванне (для адпаведнай катэгорыі абітурыентаў);

6 фотакартак памерам 3 на 4 см;

дакументы, якія пацвярджаюць права абітурыента на льготы, устаноўленыя заканадаўствам РБ;

дакументы, якія пацвярджаюць перамогі ў муз. конкурсах. Пры прадстаўленні дыплома на замежнай мове ў прыёмную камісію адначасова прадстаўляецца натарыяльна завераны пераклад дыплома.

Пашпарт або іншае пасведчанне асобы, выдадзенае органамі МУС (прад'яўляецца абітурыентам асабіста).

**Абітурыенты, якія паступаюць не ў год атрымання сярэдняй адукацыі,** абавязаны прадставіць дакументы, якія пацвярджаюць іх вучобу ці работу за гады, што папярэднічалі паступленню (дакумент устаноўленага адзінага ўзору аб адукацыі адпаведнага ўзроўню, выпіска з прац. кніжкі або даведка службы занятасці насельніцтва, іншае).

**Прыём дакументаў** — з 23 чэрвеня па 4 ліпеня ўключна з 10.00 да 16.00, акрамя нядзелі. Кніга прыёму дакументаў закрываецца 4.07 у 17.00, на філіялах кафедраў АМ у Брэсце, Віцебску, Гомелі і Гродне — 9.07 у 13.00.

**Прыём дакументаў на спец. "Оперна-сімфанічнае дырыжыраванне"** — з 18 верасня па 20 верасня з 10.00 да 16.00.

**Кансультацыі** для абітурыентаў — 1, 2, 4 ліпеня.

Уступныя экзамены — з 6 па 20 ліпеня; на філіялы кафедраў АМ у Брэсце, Віцебску, Гомелі і Гродне — з 9 па 19 ліпеня.

**Залічэнне на месцы,** вызначаныя кантрольнымі лічбамі прыёму, — да 22.07; залічэнне на навучанне на ўмовах аплаты — да 17.08 2003 г. На перыяд уступных экзаменаў абітурыентам прадастаўляецца інтэрнат (з 1.07, толькі для абітурыентаў факультэтаў АМ у Мінску) з аплатай кошту пражывання.

**Уступныя экзамены на спец. "Оперна-сімфанічнае дырыжыраванне"** — з 22.09 па 29.09.

**Прыём на падрыхтоўчае аддзяленне спеваў** — у адпаведнасці з "Приемными требованиями по специальным дисциплинам для поступающих в Белорусскую государственную академию музыки", зацверджанымі прыёмнай камісіяй АМ. Абітурыенты здаюць адзін экзамен па спецыяльнасці.

Паступаючыя на **падрыхтоўчае аддзяленне кампазіцыі** (прымаюцца толькі асобы с сярэдняй спецыяльнай музычнай адукацыяй) прадстаўляюць уласныя творы.

**Азнаёміцца з правіламі прыёму ў Акадэмію музыкі і атрымаць кансультацыю па іншых пытаннях можна па адрасах:**

— 220030, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30, Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі. Тэл. прыёмнай камісіі 2065960.

— 212000, г. Магілёў, вул. Крыленкі, 12, Педагагічны факультэт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Тэл. (0222) 252814.

— 224000, г. Брэст, вул. Гогаля, 7, Брэсцкі дзяржаўны музычны каледж імя Р. Шырмы. Тэл. (0162) 266588, 264421.

— 230015, г. Гродна, б-р Ленінскага камсамола, 23, Гродзенскае дзяржаўнае музычнае вучылішча. Тэл. (0152) 742904, 74290.

— 210026, г. Віцебск, вул. Савецкая, 23а, Віцебскае дзяржаўнае музычнае вучылішча імя І. Саляртынскага. Тэл. (0212) 364282, 363626.

— 246050, г. Гомель, вул. Савецкая, 18, Гомельскі каледж мастацтваў імя Н. Сакалоўскага. Тэл. (0232) 537330, 558305.

# ТРАЦЦЯКОЎКА: СПЯШАЙЦЕСЯ БАЧЫЦЬ!

Гэтай вясною мне давялося пасля доўгага перапынку наведаць Маскву. За час, што прайшоў з апошняй маёй вандроўкі ў сталіцу РФ, горад яшчэ больш змяніўся. Не скажу, у лепшы бок ці не, але, відавочна, што Масква губляе звыклыя рысы сталіцы Савецкага Саюза (нават Красная плошча з прылеглаю да яе прасторай ужо інакш глядзіцца і ўспрымаецца). Масква, як мне падалося, ператвараецца ў звычайны "сіці" заходняга ўзору. Але, на шчасце, ёсць у гэтым горадзе мясціны, якія не губляюць сваёй сакральнасці ў якім заўгодна кантэксце. Такі сакральны аб'ект для мяне — Траццякоўская галерэя. Пасля рэканструкцыі значна павялічыліся экспазіцыйныя плошчы, з'явілася магчымасць вылучыць асобныя, персанальныя залы для найбольш значных творцаў; выставіць палотны, якія раней з-за вялікіх памераў не маглі быць прадстаўлены ў экспазіцыі. Карацей кажучы, наведанне Траццякоўкі сталася святам для душы. Тым больш прыемна было праз кароткі час пабачыць скарбы Траццякоўскай галерэі ў Мінску. У нашым Нацыянальным мастацкім музеі аж да канца верасня будуць экспанавацца каля пяцідзесяці твораў з калекцыі славутага расійскага музея. Жывапіс XVIII — пачатку XX стагоддзя. Збольшага, гэта карціны з запаснікаў. Але некаторыя — напрыклад, "Партрэт князя А. М. Галіцына" работы А. Кіпрэнскага, узяты з асноўнай экспазіцыі. Увогуле гэтую экспазіцыю можна назваць канспектам па гісторыі расійскага жывапісу прыблізна за паўтара стагоддзя. Яна дае магчымасць убачыць, як фармавалася самабытная расійская жывапісная школа. Як Расія, на пачатку XVIII стагоддзя культурніцкая ўскраіна Еўропы, паступова набывала самадастатковасць і самапавагу і на мяжы XIX—XX стагоддзяў ужо ўяўляла сабою моцную ў культурніцкім сэнсе дзяржаву.

Сярод прывезеных у Мінск твораў ёсць палотны "зорак першай велічыні". Ужо прыгаданага А. Кіпрэнскага, Д. Лявіцкага, У. Баравікоўскага, А. Іванова, І. Крамскога, А. Саўрасава, У. Левітана, В. Сярова. Ёсць творы мастакоў, чыю ролю ў гісторыі даследчыкі ацэньваюць больш сціпла, але без якіх цяжка было б зразумець логіку культурніцкага працэсу, без якіх гісторыя расійскага мастацтва не была б паўнавартаснаю.

Творы Траццякоўкі ў Мінску — падзея, безумоўна, значная. Але я не стаў бы гаварыць, што мінчукі перажылі з гэтай нагоды інфармацыйны шок — маўляў, мы такога дагэтуль не бачылі! Бачылі. У экспазіцыі нашага Нацыянальнага мастацкага музея расійскае мастацтва названага перыяду прадстаўлена вельмі годна. Ёсць сёе-тое і ў запасніках. Прынамсі, з пералічаных вышэй імёнаў у нас не стае толькі А. Кіпрэнскага.

У савецкі час калекцыя расійскага мастацтва Дзяржаўнага мастацкага музея БССР лічылася адной з самых прадстаўнічых у краіне, прапускаючы наперад толькі Маскву, Ленінград і Кіеў. Пры нагодзе і нам самім ёсць што ў той жа Траццякоўцы паказаць. Я гэта да таго, што партнёрскія стасункі Нацыянальнага мастацкага музея і Траццякоўскай галерэі — гэта не "гульня ў адны вароты", і не "вуліца з аднабаковым рухам", а нармальная міжнародная справа, нармальны культурніцкі абмен. Калі прымаць да веры заявы афіцыйных асобаў на адкрыцці выставы, а таксама тэксты-звароты да чытачоў-гледачоў у каталозе выставы, дык і беларускі і расійскі бок разглядаюць сёлетняе гасцяванне ў Мінску Траццякоўкі як пачатак вялікай справы. Хай бы так і было.

У культурнай прасторы няма і быць не можа дзяржаўных межаў, тым болей у эпоху глабалізацыі.

Будзем удзячныя супрацоўнікам абодвух музеяў, нашага і маскоўскага, за свята, якое яны падарылі мінчукам і гасцям сталіцы. І хоць выстава будзе экспанавацца даволі доўга, раю ўсім: спяшайцеся скарыстаць зручную магчымасць убачыць у Мінску тое, што складае гонар Масквы.

П. В.


















# НА КНІЖНЫМ СКРЫЖАВАННІ

***У Варшаве адбылася 48-ая міжнародная кніжная выстава-кірмаш. Па традыцыі ў ёй бралі ўдзел і беларускія выдаўцы.***

Іхні аб'яднаны стэнд прадстаўляў кніжную прадукцыю дзяржаўных і прыватных выдавецтваў. Шырока была прадстаўлена мастацкая літаратура, энцыклапедычныя даведнікі, навуковыя кнігі, альбомы пра нашу краіну, яе сталіцу і іншыя гарады і памятныя мясціны Беларусі. Гідамі па выставе і дасведчанымі менеджэрамі выступалі кіраўнікі беларускіх выдавецтваў. Прадстаўнікі польскіх, замежных выдавецтваў і кніжнага гандлю з зацікаўленасцю знаёміліся з беларускімі навінкамі, абмяркоўвалі шляхі супрацоўніцтва, дамаўляліся аб дзелавых і творчых кантактах.

Падчас выставы адбылася прэзентацыя новых выданняў нашай краіны. У першы дзень былі прадстаўлены кнігі выдавецтва "Мастацкая літаратура" – "Санеты" Янкі Купалы ў перакладзе на сем моваў свету і раман Элізы Ажэшкі "Над Нёманам", упершыню пераўвасоблены па-беларуску Анатолем Бутэвічам. Пра выхад гэтых кніг расказаў дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Уладзіслаў Мачульскі. Анатоль Бутэвіч падзяліўся ўражаннямі ад працы над перакладам, расказаў пра традыцыю выдання ў Беларусі перакладной літаратуры, пра творчыя сувязі беларускіх літаратараў з замежнымі калегамі. Асабліва быў падкрэслены той факт, што выданне твораў Э. Ажэшкі аднавіла выхад у свет некалі прызнанай і папулярнай серыі "Скарбы сусветнай літаратуры", заснаванай у 1989 годзе. Пасля выхаду 22-х кніжак з-за фінансавых праблем наступіў працяглы перапынак, і вось зараз "Скарбы" адрадзіліся. Выдавецтва падрыхтавала ўжо выхад наступных тамоў. На прэзентацыі выступіў таксама Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Павел Латушка.

Адбылася сустрэча Анатоля Бутэвіча са студэнтамі і выкладчыкамі кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Падчас зацікаўленай гаворкі абмяркоўваліся праблемы беларуска-польскіх літаратурных узаемасувязяў, сённяшні стан беларускай літаратуры. Пісьменнік расказаў пра сваю творчасць і, у прыватнасці, аб працы над кнігамі з серыі "Сем цудаў Беларусі", што выпусціць у свет выдавецтва "Кавалер Паблішэрс" — пра гістарычныя падзеі, датычныя нашай сумеснай гісторыі пасля Крэўскай уніі 1385 года.



Беларускія кнігавыдаўцы сустрэліся з кіраўніком Цэнтра славянскіх культур у Варшаве і трымальнікам кнігарні, дзе прадаюцца і беларускія выданні, Янкам Забродскім, падчас якой абмяркоўваліся магчымасці пашырэння продажу беларускіх кніг у Польшчы, правядзення сумесных творчых акцый.

Міша АЛІМПІК

*НА ЗДЫМКУ: прэзентацыя рамана Э. Ажэшкі "Над Нёманам" на Варшаўскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы. Аўтограф дае перакладчык Анатоль Бутэвіч.*

**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае шчырыя спачуванні пісьменніку Алесю Петрашкевічу ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю жонкі Ады Мікалаеўны.**



# Я СВОЙ ТУТ ЛЮДЗЯМ



Мінула тры гады, як памёр Мікола Капыловіч. Здольны празаік і публіцыст, шчыры і адкрыты чалавек. Яшчэ ў 1968 г., даючы інтэрв'ю Аляксею Гардзіцкаму, Янка Скрыган сказаў: "Найбольш падабаюцца мне Анатоль Кудравец і Мікола Капыловіч. Яны стараюцца не ўпадаць у драбнату, ідуць ад душы чалавека, даследуюць з'явы сацыяльна важныя. Яны эканомныя ў мове, любяць і чуюць слова, і таму фраза ў іх натуральная, граматная" (А. Гардзіцкі. "Дыялогі", Мн., 1968 г., с. 73). Ды пра тое выказванне аднаго з лепшых айчынных празаікаў мы даўным даўно забыліся. Памаленьку забываемся і пра Капыловіча.

А нарадзіўся Мікола Капыловіч 10 ліпеня 1937 года. ў вёсцы Астражанка Лельчыцкага раёна Гомельскай вобласці ў шматдзетнай сялянскай сям'і. Скончыў Астражанскую сярэднюю школу і філфак БДУ. Працаваў інструктарам Лельчыцкага райкама камсамола, настаўнікам роднай мовы і літаратуры Цудзенішскай сярэдняй школы, што на Ашмяншчыне. З 1964 г. жыў у Мінску. Працаваў рэдактарам у выдавецтве "Беларусь", літаратурным сакратаром у газеце "Звязда", рэдактарам выдавецтва "Мастацкая літаратура". У друку выступаў пад уласным прозвішчам і псеўданімамі М. Капыл, М. Корч, М. Астражанскі, Мікола Думейка. У 1983 г. пераехаў у Маладзечна. Нейкі час быў супрацоўнікам гарадской газеты "Наш дзень", вартаўніком у мясцовым гарвыканкаме. Памёр 24 лютага 2000 г. і пахаваны на гарадскіх могілках у Лазаўцы.

У рэспубліканскім друку выступіў у 1960 годзе. Першы зборнік апавяданняў "Скрозь жывуць людзі" пабачыў свет у 1968 годзе. На яго выхад адгукнуліся цікавымі і добразычлівымі рэцэнзіямі пісьменнікі і літаратуразнаўцы. У прыватнасці Варлен Бечык, Сяргей Гусак, Іван Калеснік, Мікола Прашковіч ды іншыя. Потым былі кнігі прозы "Засада", "Дні ціхай восені", "Чужы сваяк" і калектыўная "Сонечны дождж". Шмат друкаваўся ў рэспубліканскіх і раённых перыядычных выданнях.

Былі ў жыцці Міколы Фаміча (як, бадай, і ў кожнай творчай асобы) уздымы і спады, перыяды жыццёвай актыўнасці і застою. Як чалавек быў ён шчыры, добры, крыху наіўны, але заўсёды адкрыты для людзей і асабліва для сваіх аднадумцаў. Маё знаёмства з ім адбылося ў 1983 г. выпадкова, калі па справах ехалі электрычкай у Мінск. З таго часу і амаль да апошняга ягонага дня мы былі з ім у добрых сардэчных, прыяцельскіх стасунках (нягледзячы на вялікую розніцу ў гадах). Прыемна было з ім пагаварыць пра літаратуру (а чытаў ён шмат), пачуць цікавыя расказы з жыцця пісьменнікаў, ягоныя характарыстыкі ўжо забранзавелых класікаў. Ды і са сваёй персонай дужа не насіўся. Шмат вясёлых прыгод, гумарыстычных здарэнняў можна было пачуць з ягоных вуснаў і пра сваё асабістае жыццё. Але каб не склалася ў чытача ўяўленне, што быў Мікола Фаміч ледзь не ідэальным ва ўсіх адносінах чалавекам, прыйдзецца сказаць тут і горкую праўду пра яго хібы і недахопы. У першую чаргу — гэта пра залішнюю цягу да вясёлых кампаніяў, да багемнага ладу жыцця (у горшым яго варыянце). Былі і іншыя чалавечыя слабасці.

І колькі мы ні прасілі, каб ён адумаўся, стаў больш пераборлівым у людзях, адкінуў некаторых сваіх знаёмцаў — не дапамагала. Пазней ён і сам неаднойчы шкадаваў, дакараў сябе, прасіў прабачэння, але праходзіў пэўны час і пачыналася ўсё спачатку. Кампаніі, непатрэбныя знаёмствы, застоллі. І дзе ж тут было да пісання, да працы.

І тым не менш, мы, маладзечанцы, яго любілі. За ўсё добрае, што яшчэ жыло і не пагасла ў ягонай душы. За тое, што мог падзяліцца апошнім, дапамагчы фізічна, падтрымаць душэўна. І часта не толькі словамі, а і канкрэтнымі справамі. Прынамсі, я, аўтар гэтых радкоў, да свайго апошняга дня буду ўдзячны яму за тое, што абагрэў, прапанаваў пажыць у ягонай кватэры, калі ў маім жыцці ўзніклі пэўныя цяжкасці. А колькі мы з ім потым, пахадзілі, паваандравалі па нашай любай Віленшчыне, пабывалі ў сем'ях старых заходнебеларускіх настаўнікаў, асветнікаў, патрыётаў, палюбаваліся краявідамі нашай Бацькаўшчыны. І як тады ў тых сем'ях ён ажываў, святлеў, рабіўся далікатным, тактоўным і ўдумлівым суразмоўцам. Як ганарыўся сваім горадам, сваім Маладзечнам. Як сёння, здаецца, памятаю тую нашу апошнюю паездку ў Вішнева, да айца Уладыслава Чарняўскага. Была глыбокая лістападаўская восень 1999 года. Ойча Уладыслаў, як заўсёды, нас цёпла прыняў, пачаставаў, даў у дарогу гасцінца. На працягу ўсёй той сустрэчы, ойча з Міколам Фамічом дасціпна жартавалі, смяяліся. Расказвалі цікавыя выпадкі з уласнага жыцця. А потым была няблізкая дарога да вячэрняга цягніка на станцыю Багданава, і Капыловіч неяк ураз змяніўся, зрабіўся маўклівым, засяроджаным у сабе і толькі час ад часу ўстаўляў сваё слоўца ў мой амаль суцэльны маналог. І толькі калі да станцыі засталося некалькі сотняў метраў, раптам спыніўся і ціха спытаў: "Мішка, а, Мішка, а я свой тут людзям?" Да цягніка заставаліся лічаныя хвіліны і я ў адказ параіў яму лепш прыспешыць крок. Ён уздыхнуў, а праз нейкую хвіліну зацягнуў старую народную песню "Ой, косю, мой косю..." Спяваў ён выдатна. Недарэмна, калісьці ў гады студэнцкай маладосці быў харыстам у капэле славутага Р. Шырмы. Так і шлі мы тыя апошнія сотні метраў у глыбокім восеньскім тумане, а ў наваколлі гучалі шчымлівыя і сардэчныя словы нашай роднай беларускай песні. Мікола Фаміч спяваў...

Незадоўга да сваёй смерці ён аддаў мне свае кнігі (некаторыя з даравальнымі надпісамі нашых пісьменнікаў), невялікую частку з былога вялікага эпісталярыя (астатняе расцягалі "сябры і знаёмцы"), фотаздымкі. Як штосьці прадчуваючы, сказаў: "Можа, калі і надрукуеш". І вось цяпер, калі прайшло тры гады з дня смерці Міколы Фаміча Капыловіча, я прапаную чытачам "ЛіМа" ягонае ліставанне з Міхасём Стральцовым і Міхасём Вышынскім. Таленавітымі людзьмі, жыццёвы шлях якіх абарваўся так рана. Пісаліся тыя лісты тады, калі М. Капыловіч добраахвотна паехаў працаваць выкладчыкам роднай мовы і літаратуры ў Цудзенішскую сярэднюю школу, што на Ашмяншчыне. Таму так часта ў тэксце сустракаюцца такія пасяброўску жартоўныя словы, як "выгнаннік", "пустэльнік", "народнік" ды іншыя. Што цікавага ў тых лістах? Многае. Думкі, мары, спадзяванні, лепшыя парывы іх юначай душы навечна засталіся на гэтых пажаўцелых ад часу аркушах паперы. І нам засталося толькі прачытаць іх, каб лепш зразумець той час, калі ў беларускую літаратуру ішло пакаленне, якое па-сапраўднаму ажывіла яе, напоўніла новым зместам і формай, стварыла творы, якія сталі ўзорнымі для наступных пакаленняў. І хай не ўсе з тых пісьменнікаў сталі вядомымі (ёсць жа ў прыродзе лес, а ёсць і падлесак), але мы павінны памятаць іх, шчырых і руплівых працаўнікоў на ніве прыгожага беларускага пісьменства.

А на заканчэнне, хоць і спознена, хачу ўслед яму, Міколу Фамічу Капыловічу, на тое шчымлівае восеньскае пытанне адказаць: "Нягледзячы ні на што, насуперак усім размовам, часта злым і несправядлівым, Вы былі, ёсць і будзеце свой тут людзям. Прынамсі, для тых, хто Вас ведаў і за ўсё добрае паважаў".

Міхась КАЗЛОЎСКІ



З Генадзем КАХАНОЎСКІМ.

**Добрага здароўя, Мікола!**

Наважыўся напісаць табе колькі слоў. Ты, брат, у нядзелю так для мяне непрыкметна і таямніча знік, што і не развітаўся нават з Валодзем і са мной: гэта ўжо, чорт, нікуды няварта. Скажаш — дык вы ж спалі. Няхай сабе, але ўсё ж. Знаеш, такі асадак непрыемны ў мяне застаўся: вечна ты мне хоць што-небудзь, але вычворваеш — ці ў горадзе, ці ў вёсцы. Гэта ідзе ад таго, што ты мяне поўнасцю не разумееш. Прыйдзецца, відаць, трымацца каля цябе стрымана.

Слава богу, што за вакном сонца, а то праз колькі дзён надвор'е, як у мяшку, і сам жывеш, як у мяшку: і мутна і цёмна на душы. А тады, памятаеш, як ездзілі, і як былі ў Мішы, я пасля ў інтэрнаце дык я проста смехам адганяў усё нуднае на душы, і смех гэты быў бяскрыўдны, лёгкі, просты ад душы і хацелася, каб усе, хто быў каля мяне гэтаксама смяяліся і трымалі сябе хоць на гадзіну — вольна лёгка, раскавана, каб хоць на самую гадзінку адчулі ўсю непасрэднасць жыцця, без застояў, без асабіста патаемных думак, якіх у цябе, Коля, гэтак поўна, і мне, напрыклад, гэта непрыемна і проста раздражняе мяне.

Але, кажу, слава богу, што за вакном сонца і я адзін, пішу вось табе, пасля лягу і забыўшыся, буду чытаць.

Цяпер, Коля, прашу адказаць мне. Расказаць усё ж, калі тады не змог, што ты будзеш пісаць, і саму сутнасць расказы пісання. Ці будзеш перапісвацца са Стральцовым?

Пра ўсё сваё я пасля табе таксама раскажу, бо пакуль што абрысы новага апавядання смутныя і невыразныя. Я залягу, замкнуся ў сабе і пачну думаць, — працаваць, як убачыш.

Мне яшчэ так многа трэба працаваць! І як хочацца напісаць смела, шчасліва і горка!..

Мы ідзем, як салдаты, ад бою да бою, — ад апавядання да апавядання, і чым далей, тым глыбей і шырэй, тым цяжэй і, мусіць, лягчэй ці дакладней: мудрэй, вопытней.

А канца і краю нашай работы не відаць, і, вядома, яму не будзе і мы яго не ўбачым. І гэта добра.

І яшчэ, Коля: калі будзеш пісаць Міхасю, не вельмі плявузгай на мяне, — ну я гэта жартам! Будзь разумным. Трэба трымацца як-небудзь разам. Хто сказаў, што адзін у полі воін?! Правільна ці не?



З А. БАРОЎСКІМ І Г. ШУТЭНКАМ.

Не забудзь адрасу: Мінск, в. Паркавая магістраль, 9 кв. 297.

Вось пакуль што, братка, усё. М. Вышынскі

**7.4.64.**

**Добры дзень, Мікола!**

Сёння панядзелак, 20-е студзеня, вечар шэры, сыры, зімні, і такі ж настрой, як гэты вечар, — нудна-шэры, але нічога, Коля, я маладзец: плюю на гэты настрой, бо ён пераменлівы, як воды вясной, бо ён жыве сваімі законамі, а розум сваімі: вось за розум я і хапаюся, як хапаюцца за сабаку (іменна! — розум-сабака-тыран) гаспадары, шчуўшы, што ў садзе неспакойна.

Што? — філасофская поза: не, не падазравай у гэтым: усё напісанае сурова-простае, тое, што набалела.

Пісьмы — не літаратура, а калі і літаратура, як ты лічыш, то асаблівага жанру, — зрэшты, не жанру, а формы ці што — інтымнай, сакравеннай, вельмі чалавечашчырай, але не вузкай у пэўным сэнсе, не нейкай застыгла-афіцыйнай. Так што, Коля, ты змяні свой погляд на пісьмы: мы ж не дзеячы-багі якія-небудзь, а добрыя таварышы, блізкія людзі.

Здзіўлены, што пішу такое? Мусіць. Але і я, браце вожык, употай быў здзівіўся, калі ты, ідучы поруч на Свярдлова, сказаў мне: "Апошняе пісьмо ты такое напісаў..." Так быў неадабральны. Ну, усё. Дні плывуць, наплываюць і сплываюць, як блізняты, і хутка. Дзе той Новы год? Як і не было! Дзе тая магіла, — будзе. Ну, і дойдзем. Цікава, што, мусіць, мы нечалавечы "содрогнемся", як будзем "дух испускать", "содрогнемся" і нам адкрыецца бездань пачуццяў і сэнсу, а мо і нічога не адкрыецца.. Памрэм ціха. Не, не, не Коля, настрою я псаваць табе пісанінай не хачу, бо не ведаю, калі і дзе (дома, у школе, на вуліцы) атрымаеш гэта ўсё: "Логікі ў сказе няма, так сказаў бы вялікі яўрэйскі філасоф імя якому — Фіргтэйн Бама. А пішу я ўсё гэта за тым сталом, які ўсё помніць сваёй драўлянай памяццю: і нашы гутаркі-бутэлькі, і нашы локці на сваім твары, і гарачыя бясконцыя акуркі, і попел нерваў. І пішу я ясны на галаву, не зацямнёны, як сказаў бы вялікі яўрэйскі філосаф, імя якому Джу-джу.

Я, Коля, заўважыў быў у табе значны душэўны перапом, калі ты прыязджаў... Перапом такі адбыўся, ды мо ён ужо і быў, гэты перапом, ва універсітэце, у студэнтаў усіх, але пра яго я пісаць не буду, тут — пра яго я табе раскажу, калі прыеду да цябе ў час зімніх вакацый. А пакуль усё, што пісаў успрымай з гумарам, а самы вялікі гумар будзе ўперадзе, калі я да цябе прыеду, — будзем гагатаць і ікаць, будзем, трывожна і мужна, маўчаць, будзем сумаваць і, божа мой, чорт ведае, што будзем. Але ведай, што нешта цікавае.

А мо я цябе не застану? Мо ты паедзеш на Палессе, да бацькоў? У вас жа таксама вакацыі! Так што напішы. І пішы не на універсітэт, а пішы на мой дамашні адрас: Мінская вобл. Мінскі р-н, Зялёналужскі с-сав., в. Валяр'янава...

У нас, сам ведаеш, вакацыі да 7 лютага, а сёння 20 студзеня, у нас яшчэ адзін экзамен уперадзе — палітэканомія, і здаём яго 23 студзеня, і ўжо самі вакацыі, і я еду на вёску, дапісваю апавяданне, адпачну, пахаджу, пагуляю, і — прыеду да цябе, далёкага, як вечнасць, і блізкага, як памяць. Між іншым, сесія гэтая ў мяне ідзе на здзіўленне пагана, адны тройкі, — што гэта такое? Яшчэ стыпендыі не дадуць, здыхаць пачнем пасля канікул.

Валодзя нешта бубніць. Замінае. Дрэнна. А ў вакне як прыгожа: вечар прыгожы, як зрэшты прыгожа жыць, толькі нам так не заўсёды ўдаецца, але ўдасца.

**P.S. Мы яшчэ пагаворым.**
**І мы яшчэ здзівім планету.**
**І мы яшчэ парадуемся.**
**Жыві, Коля, чакай, спадзявайся!**

**Твой камарад: Міхась Вышынскі.**

**Добрага здароўя, Мікола!**

Гэта, як бачыш, я, той жа самы Міхась. Даўно ўжо як бы мы не гутарылі з табою. Кажуць, на мая ты быў у горадзе, шляўся пад Бахусам. Я на 2 і 3 мая быў у інтэрнаце, шукаў цябе ўсюды, гада, але не знайшоў — кажуць, ты ў брата быў асталяваўся.

Ну, нічога. Так. Як ты там, што чутно і відно? Раскажы. Я са школай ужо пакончыў — пачынаюцца экзамены. Многа чытаю.... Раю прачытаць у "ЛіМе" апавяданне Стральцова.

Я пішу новы твор. Пачаў пісаць дакладней. А, тое маё апавяданне, Стральцоў думае, мяркуецца змясціць у № 7 "Маладосці". А як там выйдзе, то адзін бог бацька ведае. Вясна. Настрой цудоўны. Як у цябе? Як гарэлка, дзеўкі ці, забыўся, у вас там няма дзевак?

Напішы дзе думаеш прабыць лета? Можа, Мікола, нам махнуць да цябе на Палессе? А? Альбо, скажам, паехаць пабачыць Маскву? Я там ні разу не быў і, думаю, ты таксама не быў?

Увогуле трэба нам з табою зрабіць нейкае падарожжа па зямлі. Як ты думаеш? Мы б пісалі, падарожнічалі б, папоўнілі б ураженні, а то кожнае лета сядзім у сваіх норах, як барсукі.

Скажы ці не так, Мікола? Ну, прабач — пруся на ўрок, як дурны. Напішы, браце, чакаю.

**16.5.64.**
**Твой Міхась Вышынскі**

**Дарагі Мікола!**

Рады быў твайму шчыраму, харошаму пісьму, і прыемная была мне гэта хвіліна гаворкі з табой, бо сапраўды, думаю, мы здолеем зразумець (і разумеем) адзін аднаго. Ёсць у цябе адна такая якасць, якую сам сабе я заву "нравственным чувством", — якасць, што не дае чалавеку супакойвацца, а, наадварот, нараджае ў ім заўсёдны разлад, крызісы і г.д. Гэта не страшна, гэта, па-мойму, так і трэба, асабліва чалавеку, які трымае ў руцэ пяро.

Ёсць людзі яркія, нават арыгінальныя, упэўненыя ў сабе, у сваіх звычках, густах, у сваім праве рабіць толькі так, як робяць яны, асуджаць нас, што не падабаецца ім, — часам ім зайздросціш, але, прыгледзеўшыся, у большасці бачыш, што гэта самае звычайная жорсткасць, чэрствасць, "забвение" ў сябе чалавека. Асуджаць, любіць толькі таму, што так хачу я, хто так мне падабаецца, не "соображаясь", як гаварылі даўней, з патрабаваннямі вышэйшымі, душэўнымі, "нравственными", адчуваць сябе так, як адчувае бульдозер, ломячы ўсё перад сабой (г.зн., нічога не адчувае) — па-мойму брыдка і нявартa чалавека. Але ў той жа час, жывучы паміж людзей, нельга ўхіліцца і таго, каб неяк не заяўляць пра сябе, пра сваё "я", — ёсць тут супярэчнасць, але, мусіць, найбольш патрэбны жыццю той, хто адчувае гэтую супярэчнасць, шукае выйсця з яе, чым той, хто не задумваецца над ёй, бярэ сябе меркай усяго.

Вось табе "філазофія" — не новая, адкрытая не намі, але заўсёды жывая і новая, якая адна вядзе да аднаўлення, да росту душы. Пішу гэта таму, што нешта блізкае да гэтага заўважыў у пісьмах і адчуваннях тваіх — і няхай будуць блаславёны яны, як і ты, добраахвотны выгнаннік з зямнога раю.

Што цяпер пішаш? Я дык амаль нічога: задумаў нешта, і калі абдумваў, любіў свае задумы, а стаўшы пісаць — не хапае духу, любові, і сорамна за сябе, што нічога яшчэ не зрабіў, што невысока думаеш, не ўмееш працаваць і наогул нічога не ўмееш. Божа, як зайздрошчу я легкадумнасці людзей, што пішуць — раман дык раман, аповесць, дык аповесць — але становяцца затое "у адзін рад з буйнейшымі нашымі мастакамі слова", як сказаў пра раманіста І. Навуменку крытык Ф. Куляшоў.

Што яшчэ? У салдаты, мусіць, пакуль не пайду. Ідзе лета, а я яшчэ не ведаю, што буду рабіць, куды дзець жонку, дзяцей і г.д.

Тваё апавяданне я падрыхтаваў, бяда толькі, што так туга ў нас сёлета з месцам, і я не ведаю, ці пападзе яно ў нумар. Але не турбуйся асабліва, пішы, дасылай што новае: можа пойдзе разам.

Будзь здароў, стары.

**Пішы. Твой Міхась Стральцоў.**

**25.05.64.**

**Добрага здароўя і душэўнага мудрага спакою, мілы Мікола!**

Я, Мікола, як рэха, якое гучнулася там, у тваіх землях і паляцела, несучы самое сябе, далёка, — у Мінск. І ўжо рэхам сталі Лог, в. Цудзенішкі, яе людзі, і ўсе ўражанні мае ад іх. І толькі як бы адзін стаіш там — рэальны, жывы, супярэчлівы, моцны і кволы; разгублены і цэласна сабраны, як схаваны зарад, — не ў ладах з самім сабой і ў ладах. Мо так і трэба. Мо і ў такім стане і ўсё шчасце, якое прарасце, зацвіце і дасць плод другога шчасця — якога, ты ведаеш сам. Бо што такое шчасце? — радасны спакой, адчуванне "удовлетворенности"? Мусіць. Але такое прыходзіць пасля бур духоўных, — я ведаю. Ведаеш і ты. Значыць, буры неабходны. Не будзе гэтага не будзе і другога. Дыямат. Закон адзінства супярэчнасцей (глядзі, у якія нетры залез?!). Буры, як мукі — пакутлівыя і нясцерпныя, ад іх, нясцерпных, нясцерпна хочацца пазбавіцца. Доўга іх нельга трываць. Але яны і неабходны.

Усё. Я хачу, Мікола, аднаго, як і казаў, каб ты трымаўся, каб не выбіўся з кірунку. Ты працуеш? Пішы так, як мы з табой дамовіліся. Два варыянты. Адзін, перарабіўшы. Каб было ацэнка і каб можна было друкаваць. Ты мяне разумееш? І каб не губляў веры ў сябе. Ледзьве не забыўся: убачу Эму, прывітаюся, пагавару, стараючыся з-за далікатнасці глыбока не забірацца ў інтымнасці вашы.

Ці піша яна табе?

Вось і ўсе нямногія факты. Сёння субота. 8-ае. Люты. Я дома, чытаю, пішу. Думаю пра ўсё, што бачыў у вас, што адчуў. І ўсё адно, каб як словам падтрымаць цябе, каб ты выдатна-бурна, нястрымна працаваў, працаваў... Каб не губляўся — гэта страшна. Я і напісаў таму — хай хоць на маленькае імгненне блісне ў цябе радасць гэтага ліста, хай памужнее хоць чуць твая душа, хай... а іх "хай" цябе (ды і ў мяне многа-многа).

І яшчэ. Перадай вялікае маладое прывітанне ад мяне некаторым настаўнікам, якіх я збольшага, далёка зведаў, тваім гаспадарам па хаце, а галоўнае, сваім сябрам-таварышам па бутэльцы і "отмельніčеству", а найболей дык музыканту-піяністу і яго таварышу, — яны для цябе, як бацькі і болей як бацькі, калі ўлічыць тваё становішча.

І яшчэ: прывітанне паштальёну.

**Добрага здароўя. Пішу. 8. Субота.**

Заехаў я, як мае быць. Да Маладзечна білет узяў. У Маладзечна быў дзень той увесь у брата-настаўніка. Гулялі. У яго шыкарна-сонечны, утульны, асобны пакойчык. Я паглядзеў і падумаў: "Такі бы, Колю. Не бегаў бы ён працаваць у школу".

Я пагуляў у яго, як бог і раніцой цягніком у Мінск. Шыкарны вагон. Шуленьку, баяніста, ачкарыка там сустрэў. Гаварылі да самага Мінска.

Далей. Слухай: 3,4,5-ы курсы такі ўжо перавялі на Дзімітрава вуліцу. Перасяліліся ўжо, жывём там. Так што запамінай: пакой мой 297. 5-ы паверх. Табе спатрэбіцца гэта, як прыедзеш у Мінск. Са мной 6 чалавек.

Практыка. Мяне і яшчэ трое прызначылі ў 28 школу на вуліцу Варвашэні. Камароўскі наш начальнік. У Мінску і толькі ў ім, — сказаў Булацкі будзеце практыкавацца. Да марта. А з марта па чэрвень на стажыроўку. Так што мне толькі нешта ў марце прыйдзецца прасіць і думаць, каб да цябе ў школу стажыравацца. Гэта будзе можна. Будзем бачыць.

Ах, Коля, Коля, мой Мікола, ты, калі скруха ляжа на сэрца, і не толькі калі яна, пайдзі туды, дзе быў я. Я тады не хацеў пра гэта гаварыць. А цяпер, калі нас раздзяляе далячынь, скажу. Можна. Камяні. Яны, камяні — велізарныя, цёмна-зялёныя ў мосе, у траве. Яны ляжаць за могілкамі ў нізінцы з левага боку могілак. Я бачыў іх, іх многа, я стаяў там, вечарам у панядзелак 3-га і такое хадзіла ў мяне ў душы, што божа мой!

Гэта не камяні — гэта самі вякі, у якіх мы не жылі, якіх мы не бачылі. Гэта нешта не перадавальнае. Не смейся. Мне нязёмка. І не думай, што ў іх там няма нічога цікавага. Увогуле, на мой погляд, вёску і наваколле яе ў сэнсе геаграфіі ты не ведаеш.

Зведай. Абавязкова. Табе гэта многа дасць. Бо пройдуць гады, ты будзеш працаваць у другіх месцах, але павер першае сваё настаўніцтва і месца, дзе настаўнічаў, ты будзеш успамінаць, як успамінаюць казкі маленства.

Напішы пра гэта. Я чакаю. Што ты будзеш думаць, калі будзеш там. А сляды мае там, мусіць, ужо занясло, была завея, вось цікава...

**М. Вышынскі**

**2 снежня**

Ах, ты мой народнік, — здароў!

Атрымаў пісьмо, пасля адкрыў. Ну, навошта ўжо там было прасіць, каб прыслаў, што табе трэба?! Вядома, прышлю. Заўтра, адпраўлю. Я толькі падумаў-падумаў, ці не ў "Чырвоную змену" яго, апавяданне саўгануць? Чорт яго ведае, але рада мая такая, што каб ты, браце мой вожык, папыхцеў яшчэ над ім. Ведаеш, — "Чырвоная" і надрукавала б, але ж толькі "Першы экзамен" там вылежаў бы: пылотай пацягнуўся б, — сам ведаеш. Ды і грошай было б тых, — не вып'еш добра. Сцісні яго, адшліфуй, дапішы што, а што выкінь, — адным словам рыхтуй для часопіса, а не для якога "Світка". Во.

Цяпер раскажу бедалажную гісторыю для апавяданняў, што, помніш, сабралі там, сярод лесу, дзе развучваліся пісаць, дзе дурэлі ад нуды, гарэлкі і яшчэ чорт ведае ад чаго, Вярцінскі, здаецца, сабіраў у "ЛіМ" для старонкі той.

Ну, дык Юновіч (!) — Пашкевіч іх таго... пад зад: слабыя кажа. Помню, прывалокся Гілевіч, раве мне, давай апавяданне, нясі, старонка правальваецца, шанц маеш: во-во надрукуюць, грошай цэлы аўтобус лупянеш. Я кажу: хрэн табе, няма ў мяне ні халеры, пісаць развучыўся, хай друкуюць тыя, што ёсць. Так тая старонка лімаўская і выйшла без нашай прозы, адны вершы і ўсякая там ахінея. От.

Значыць, заўтра апавяданне вышлю.

Што яшчэ. Мусіць, недзе ў гэтым месяцы, хутчэй што на пачатку яго, я ўсё ж наведаю цябе. У нас скора практыка, будуць сякія-такія слабодныя дні. Так што май на ўвазе: грамі там апараты, канфіскоўвай вар'яцкае зелле ды скапляй дзе ў патаемнасці. Жартую, вядома. Увогуле будзь насцярожаны, як заяц ноччу. Буду я недзе пасля 15, чаму пасля 15, то ты сам ведаеш і не трэба пытаць.

І яшчэ. Каб да гэтага часу было ў цябе што чытануць, каб вочы на лоб ад дзіва, — і гэта галоўнае.

Я дык сваё пішу, як рыўкамі. Дарвуся раз — лісток, дарвуся другі — другі тым часам і г.д. Увогуле, рыўкамі пішу, як сабака на ланцугу тузаюся. Хацелася б прывезці, паказаць, пачытаць, але потым, як будзе ўсё ў ажуры. На новы год, мусіць даканаю. Зрэшты, куды спяшыць? Хаця і трэба. Што засталося: дапісаць фінал, напісаць нанава пачатак, прыдумаць загаловак. Але ж, браце ты мой, работы яшчэ.

Слухай, цікава. Помню, як сказаў Вярцінскі, што апавяданні парэзалі і трэба новае, — я сказаў Белавусу Івану:

— Іван, прысвой "Корань жыцця" — ёсць у яго такое апавяданне. Эх, і загарэўся ён!! Ай-яй-яй...

Кажа: — Добра, пабачыш, зраблю. Праз тры дні — будзе. А я ўжо сказаў там, у "ЛіМе". — Белавус прыпрэ. Прайшло тры дні. Сустракаю Івана. — Ну, як? Занёс? — Ведаеш, забыўся, чорт яго ведае. Можа ў "Маладосць" панясу... Я нешта яго не разумею... Не можа ніводнай рэчы давесці да ладу: то ухопіцца за адно, за другое... І ўсё не даводзіць да канца, як чокнуты які. Трэба будзе сказаць яму гэта. Каб арганізаваўся.

Ну, як Мысляўцова? Мы, брат даўлянулі з ім. 1500 р. — нямала ўсё ж.

Потым што больш напішу, а цяпер ручка раздражняе: пяро, як корч.

**P.S. Ідуць снягі. Я сёння бачыў не гарадскую, цывілізаваную, а палявую вясковую Зіму. "И поют снега, и мечется в них в тоске душа человечья". А здаецца, нядаўна кружыла Восень...**

**Міхась — табе вядомы тыпік.**
**(Вышынскі)**

* У публікацыі захоўваецца арфаграфія, сінтаксіс і пунктуацыя арыгінапа



Міхась СТРАЛЬЦОЎ і Анатоль КУДРАВЕЦ.

